*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 24 ліпеня 1987 г. № 30 (3388) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

## ЛЮДЗІ РОДНАГА КРАЮ

●

Не так даўно ў тэлевізійнай праграме «Час» быў паказаны сюжэт аб уручэнні ў Крамлі групе таварышаў высокіх урадавых узнагарод. Сярод узнагароджаных быў і славуты старшыня славутага на ўсю краіну калгаса «Савецкая Беларусь» Камянецкага раёна Уладзімір Лявонцьевіч Бядуля. Андрэй Андрэевіч Грамыка ўручыў яму ордэн Леніна і другую Залатую Зорку Героя Сацыялістычнай Працы.

У. Л. Бядуля з тых людзей, якія сваёй працай, сваёй грамадзянскай і чалавечай пазіцыяй рыхтавалі, набліжалі перабудову. Яны не ішлі на здзелку з сумленнем, не гнуліся пакорліва перад чыноўніцкімі аўтарытэтамі, не дапускалі разладу паміж словам і справай, а шчыра і сумленна, набіваючы гузакі і зведваючы балючыя душэўныя траўмы, рабілі даручаную ім справу, з сялянскай, хлебаробскай цягавітасцю, а то і зацятасцю працавалі, дбалі аб тым, каб з году ў год добра радзіла зямля, каб багацела і мацнела гаспадарка, а разам з ёй і краіна, каб заможна, шчасліва і духоўна, змястоўна жылі людзі. Гэта ж яны робяць і цяпер, толькі робяць, трэба думаць, куды з большым імпэтам і заўзятасцю, з большай радасцю і задавальненнем, бо адчулі сапраўдны давер, бо раскрыліся перад імі шырокія магчымасці для разгарнення сваіх гаспадарчых, кіраўнічых, выхаваўчых здольнасцей.

Сёння партрэт Уладзіміра Лявонцьевіча — на першай старонцы нашага штотыднёвіка. Робім мы гэта з задавальненнем яшчэ і з тае прычыны, што ведаем, як рупліва дбае ён пра духоўны патэнцыял сваіх калгаснікаў, пра стварэнне ў гаспадарцы ўмоў і магчымасцей для развіцця і росквіту мастацкіх здольнасцей малых і старых. Для пацвярджэння сказанага згадаем хіба толькі такі факт: у «Савецкай Беларусі» пабудаваны першы ў рэспубліцы і другі ці трэці ў краіне Музей хлеба. Ініцыятарам яго стварэння быў таксама старшыня калгаса Уладзімір Лявонцьевіч Бядуля.

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

●




# «УЯВІЦЕ САБЕ СТАДЫЁН...»

«Рэвалюцыі вечны агонь». Пад такім дэвізам у сталіцы рэспублікі горадзе-герої Мінску, у абласных гарадах прайшлі мастацка-спартыўныя прадстаўленні, прысвечаныя 70-годдзю Кастрычніка. Наш карэспандэнт папрасіў расказаць пра іх заслужаную артыстку рэспублікі, актыўную ўдзельніцу гэтых святаў Ганну Паўлаўну Рыжкову.

**— Пра тое, як прайшло мастацка-спартыўнае свята ў Мінску, «ЛіМ» пісаў. Я хачу дадаць, што з такім жа поспехам яно праходзіла і ў абласных цэнтрах. Усяго было дадзена дваццаць прадстаўленняў, у якіх прынялі ўдзел 350 прафесійных і 800 самадзейных артыстаў, дзесяткі духавых аркестраў, самадзейных танцавальных калектываў, народныя хоры ветэранаў вайны і працы, больш як паўтары тысячы спартсменаў і фізкультурнікаў, навучэнцы прафтэхвучылішчаў і г.д.**

**Так, гэта было сапраўднае свята. Уявіце сабе стадыён (а яны ёсць ва ўсіх абласных гарадах), запоўнены да краёў, святочную публіку, што адгукаецца на кожнае выступленне гарачымі апладысментамі. З цікавасцю і хваляваннем гледачы ўспрымалі многія «старонкі» нашых выступленняў і асабліва тыя, што ўваскрашалі венапомныя гады рэвалюцыі, гераічны подзвіг савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне, пасляваенныя гады аднаўлення.**

— Якія выступленні вы лічыце найбольш яркімі, цікавымі?

**— Ведаеце, такіх было вельмі многа. Я б назвала і вядомую «Кахоўку» І. Дунаеўскага, якую з уздымам праспявала Святлана Кульпа, і пантаміму «А досвіткі тут ціхія...» у выкананні артыстаў тэатра «Рух», і славутую «Лявоніху» — каронны нумар Дзяржаўнага ансамбля танца; высокі прафесійны ўзровень паказалі ансамблі «Песняры» і «Сябры». Выдатна вяла прадстаўленне Зінаіда Бандарэнка.**

**Я нагадала прафесійных артыстаў. Але ж не трэба забывацца, што свята называлася мастацка-спартыўным, называлася так невыпадкова. Гарачымі воплескамі сустракалі гледачы і маляўнічы парад спартсменаў, іх разнастайныя выступленні на полі стадыёна.**

**Каб сплавіць прадстаўленне ў адно мастацкае цэлае, патрэбны быў дакладны сцэнарый, добрая прафесійная рэжысура. На маю думку, і сцэнарый — аўтар яго Пятрусь Макаль, і пастаноўка Рыгора Майзельса заслугоўваюць самай высокай адзнакі. Дарэчы, Р. Майзельс, на маю думку, выдатны пастаноўшчык масавых відовішчаў, што ўражваюць цудоўным сплавам мастацтва і спорту.**

— Свята, пра якое вы расказваеце, Ганна Паўлаўна, можа стаць пачаткам выдатнай традыцыі...

**— Так. Я думаю, што яно павінна выйсці і на сцэнічныя пляцоўкі раённых цэнтраў, а можа, нават і буйных гаспадарак, дзе нямала выдатных палацаў культуры. Сельскі працаўнік, ён у нас часта пазбаўлены радасці далучэння да мастацтва.**

**І яшчэ такая заўвага. На маю думку, некаторым нашым мастацкім калектывам, якія прымалі ўдзел у гэтых прадстаўленнях, бракуе густу. І ў манеры выканання, і ў чыста афарміцельскім плане. Напрыклад, некаторыя артысты былі апрануты ў надзвычай экстравагантныя касцюмы, якія не адпавядалі ні духу самога свята, ні творам, якія яны выконвалі. Далікатнасць, сціпласць, густ — чамусьці на гэтыя якасці ў артыстычным асяроддзі апошнім часам усё менш пачалі звяртаць увагу.**

# Сяброўская сустрэча М. С. Гарбачова з Габрыэлем Гарсія Маркесам

15 ліпеня М. С. Гарбачоў сустрэўся з выдатным лацінаамерыканскім пісьменнікам Габрыэлем Гарсія Маркесам, які знаходзіцца цяпер у Савецкім Саюзе. Адбылася ажыўленая, зацікаўленая гутарка аб перабудове ў Савецкім Саюзе, аб яе міжнародным значэнні, аб ролі дзеячаў культуры, аб значэнні агульначалавечых каштоўнасцей у сучасным свеце.

**М. С. Гарбачоў**, цёпла вітаючы Гарсія Маркеса, сказаў, што яму заўсёды рады ў Савецкім Саюзе, таму што добра ведаюць яго мастацкія творы і прагрэсіўную грамадскую дзейнасць.

Вы прыехалі да нас у цікавы час — час крутых перамен, абнаўлення ўсёй сістэмы сацыялістычных адносін, пачынаючы з эканомікі і канчаючы духоўнай сферай. Паўсюдна ідзе напружаная работа, але яна да спадобы нашаму народу: ёсць дзе прыкласці сілы, праявіць ініцыятыву, творчасць. Усё гэта мы, ды і не толькі мы, але і ва ўсім свеце, абазначаем словамі «перабудова», «публічнасць».

**Гарсія Маркес.** Перабудова і публічнасць — гэтыя цяпер самыя вядомыя ў свеце словы. Вельмі ўдачныя словы. Яны не перакладаюцца ні на іспанскую, ні на французскую, ні на англійскую мовы. «Публічнасць» і «перабудова» гавораць па-руску ва ўсім свеце.

**М. С. Гарбачоў.** Больш шырокі сэнс слова «перабудова» заключаецца ў тым, што яно адлюстроўвае не толькі наспеўшыя ў нашай краіне праблемы. Можна сказаць, што ўвесь свет мае патрэбу ў перабудове, гэта значыць якасным змяненні, прагрэсіўным развіцці. Людзі маюць патрэбу ў тым, каб вызначыцца, дзе яны знаходзяцца, у разуменні тых праблем, якія ўсіх хвалююць, ва ўсведамленні таго, як жыць далей.

Здаецца, у вучоных няма даных аб тым, што недзе ёсць іншая такая ж разумная цывілізацыя, як наша, зямная. І няўжо нам не хопіць мудрасці знайсці ўзаемаразуменне, не ўзарваць свет з-за таго, што мы розныя?

**Гарсія Маркес.** Калі перабудова, калі тое, што вы робіце, будзе даведзена да канца, гэта акажацца самай важнай падзеяй у сучаснай гісторыі. У мяне многа сяброў у Лацінскай Амерыцы, якія горача ўспрымаюць тое, што вы робіце. Ёсць і людзі, якія сумняваюцца ў поспеху перабудовы. Вам, мабыць, цяжка сачыць за шматвобразнай рэакцыяй у свеце на тыя працэсы, якія адбываюцца ў вас у краіне.

**М. С. Гарбачоў.** Мы, вядома, сочым за рэакцыяй у свеце, адчуваем рэзананс на тое, што мы робім, што прапануем свайму народу. Мы імкнёмся ўзняць наша грамадства на больш высокую ступень, надаць яму новую якасць на аснове каштоўнасцей сацыялізму, агульначалавечых каштоўнасцей. Шлях да гэтага — у развіцці дэмакратыі, шырокім уключэнні чалавека, працоўных у грамадскае жыццё, у праходзячыя працэсы. Гэта адзін бок справы.

Другі бок заключаецца ў тым, што наша знешняя палітыка — прадаўжэнне ўнутранай. У знешняй палітыцы мы імкнёмся кіравацца новымі падыходамі, праводзіць жывую сувязь з працэсамі, якія адбываюцца ў нас у краіне. Гэта значыць, што і тут мы прыярытэтнымі робім інтарэсы чалавека, гуманістычныя каштоўнасці. І нам, зразумела, неабыякава, як успрымае свет тое, што мы робім. Мы хочам сумленна сказаць свету аб нашых планах, аб нашых мэтах. І мы кіруемся не нейкімі фанабэрыстымі амбіцыямі, робім гэта не для таго, каб некаму спадабацца, зрабіць добрае ўражанне. Мы бачым, што наша грамадства паспела для перамен. І калі б гэта зрабілі не мы, не цяперашняе кіраўніцтва, дык гэта зрабілі б іншыя. Перабудова — гэта цяжкі і складаны, але аб'ектыўна неабходны, сацыяльна абумоўлены працэс.

Новыя падыходы ва ўнутраных справах мы трансфармуем у ініцыятывы ў знешняй палітыцы. Гэта — не лозунгі, а рэальныя практычныя прапановы. За два гады мы зрабілі многа такіх прапаноў, вынеслі іх на суд міжнароднага супольніцтва. Не прэтэндуем на абсалютную ісціну, прыслухоўваемся да думкі іншых. Гэта і ёсць тое, што мы называем — новае мысленне. Трэба вучыцца слухаць адзін аднаго і вучыцца адзін у аднаго, улічваць інтарэсы кожнай дзяржавы і паважаць інтарэсы кожнага народа. Няхай кожны даказвае свае перавагі пры ўсёй разнастайнасці сучаснага свету, але робіць гэта мірнымі сродкамі, супрацоўнічаючы адзін з адным.

Пры гэтым мы не скрываем сваю перакананасць у тым, што іменна сацыялізм адкрывае велізарныя магчымасці і перспектывы для чалавека. Мы — за сацыялізм. Але свае перакананні нікому не навязваем. Няхай кожны выбірае, а гісторыя ўсё паставіць на свае месцы.

Мы, вядома, не імправізуем, хоць творчае ўяўленне нам цяпер вельмі неабходна. Вядзём справу на аснове навуковага аналізу, выверанай унутрыпалітычнай і знешнепалітычнай канцэпцыі. Перакананы, што чалавецтва падышло да такога этапа, калі ўсе залежаць адзін ад аднаго. Нельга адрываць адну краіну ад другой, адзін народ ад другога, а тым больш — процістаўляць іх.

На нашым камуністычным лексіконе гэта называецца інтэрнацыяналізмам. Але гэта супадае з усталяваннем агульначалавечых каштоўнасцей. У процілегласць капіталізму, які грабіць народы, адмаўляецца паважаць выбар імі свайго шляху, глядзіць на цэлыя кантыненты, як на сваю вотчыну.

Для імперыялізму перабудова міжнародных адносін — гэта быццам костка ў горле. Але перабудова неабходна свету, насычанаму ядзернай зброяй, свету, дзе ёсць сур'ёзныя эканамічныя, экалагічныя праблемы, дзе ёсць беднасць, адсталасць, хваробы. Свету, у якім створана гіганцкая інфармацыйная індустрыя. А вы ведаеце, якое ўздзеянне аказвае яна на розумы людзей.

Мы лічым, што патрэбна вучыцца спалучаць нацыянальныя інтарэсы з агульначалавечымі задачамі. У нашай палітыцы няма двайнога дна. Наша сумленне чыстае. Наша філасофія міжнародных адносін не супярэчыць развважнаму сэнсу. Яна заснавана на глыбокім навуковым аналізе працэсаў і на строгім уліку інтарэсаў працоўнага народа. Яе мы і прапануем усяму свету. Яшчэ раз падкрэслю: прапануем, але ні ў якім разе не навязваем. Мы бачым, што наша палітыка выклікае не проста цікаўнасць, а глыбокі інтарэс. Свет стаміўся ад напружанасці, усе імкнуцца да лепшага.

Але ёсць, вядома, тыя, каго не задавальняюць прапануемыя намі перспектывы. Наша філасофскае бачанне свету яны аб'яўляюць утапічным, спрабуюць дыскрэдытаваць нашу палітыку, цяперашняе кіраўніцтва. Аб гэтым мы ведаем.

І ўсё ж свет мяняецца. Расце цяга да ўзаемаразумення, узаемных сувязей. Гэта нас натхняе.

**Гарсія Маркес.** Сардэчна дзякую Вам за тое, што Вы мне сказалі. Вы не ўяўляеце, як гэта мяне хвалюе. Вашы выказванні супадаюць з тым, што я думаю сам, што я чуў ад сваіх сяброў у Лацінскай Амерыцы. Гэта пацвярджае ўсё тое, што я думаю аб працэсах у вашай краіне, аб вашай палітыцы. Для мяне вельмі важна тое, што ўсё, што Вы гаворыце і робіце, — гэта шчыра. А паколькі вашы праціўнікі бачаць гэту шчырасць, яна ў іх выклікае страх. І іх дзеянні могуць быць у будучым яшчэ больш небяспечнымі.

На гэты раз я так хацеў прыехаць у СССР. Упершыню пабываў у вашай краіне на маладзёжным фестывалі ў 1957 годзе. Тады таксама я перажываў з маімі савецкімі сябрамі праходзіўшыя перамены. Людзі святкавалі пачатак перамен. Ім здавалася, што яны адбудуцца, і адбудуцца хутка.

Цяпер жа, праз 30 гадоў, я бачу вялікую розніцу ў адносінах людзей да перамен. Яны гэтак жа горача іх успрымаюць. Але гэта — не проста свята, а напружаная работа розуму. Гэта глыбокія і няпростыя роздумы. Няма таго сляпога аптымізму, які быў у 1957 годзе. Цяпер я адзначаю ўпэўнены і ў вышэйшай ступені напружаны аптымізм. Людзі разумеюць, што трэба дзейнічаць, уносіць свой уклад у перабудову. Але ёсць і апасенні: а раптам не атрымаецца? І ўсё гэта — шчыра. Ніхто не ставіць пад сумненне і шчырасць палітыкі перабудовы. Няма сумненняў у тым, што гэта сур'ёзна. Асабліва ў свеце творчай інтэлігенцыі, сярод пісьменнікаў, дзе ў мяне многа сяброў. Усе жадаюць: ні кроку назад!

**М. С. Гарбачоў.** Добрыя словы.

**Гарсія Маркес.** Можаце быць упэўнены, што і інтэлігенцыя Лацінскай Амерыкі на вашым баку. Там з велізарнай цікавасцю ўспрымаюць тое, што адбываецца ў Савецкім Саюзе, вашу перабудову.

Я пісьменнік, выказваю думкі, якія перапаўняюць мяне. Хачу сказаць, што зведваю любоў і глыбокую павагу да савецкіх людзей.

**М. С. Гарбачоў.** Дзякуй. Цэнім, што ў Вашай асобе мы маем гарачага прыхільніка перабудовы і нашага друга.

**Гарсія Маркес.** Самая важная падзея за апошнія гады для мяне — гэта сённяшняя сустрэча. Я шчаслівы, што яна адбылася.

**М. С. Гарбачоў.** У нашай краіне ў Вас велізарны аўтарытэт. Вашы творы выдаюцца, можа, большымі тыражамі ў Савецкім Саюзе, чым у іншых краінах. У Вас тут вельмі многа чытачоў.

**Гарсія Маркес.** Так, я ведаю, што больш за ўсё маіх кніг выдаецца на іспанскай мове, а потым — на рускай.

**М. С. Гарбачоў.** Гэтымі днямі я сустракаўся з кіраўнікамі нашых сродкаў масавай інфармацыі і творчых саюзаў. Гэта была цікавая сустрэча. Я гаварыў на ёй, што мы надаём велізарнае значэнне публічнасці, развіццю дэмакратыі. Гэта дае магчымасць савецкаму чалавеку поўнасцю раскрыцца. Людзі загаварылі. Ім ёсць што сказаць адзін аднаму і што выказаць ураду. Як многа мы прайгралі ад таго, што на нейкім этапе замарудзіўся працэс развіцця дэмакратыі! Хоць, зразумела, і ў гэтай сферы мы дасягнулі высокага ўзроўню. Мы—самы адукаваны народ, мы любім сваю Радзіму. Таму вельмі важна ўключыць народ у працэсы перабудовы, развіваць дэмакратыю ўшырыню і ўглыбіню. Гэта збавіць нас ад многіх памылак і з'явіцца гарантыяй таго, што перабудова будзе набываць рэальную сілу, ва ўсё большай меры станавіцца незваротнай. За невялікім выключэннем людзі вельмі адказна адносяцца да таго, што адбываецца, і гэта надае нам сілы.

Самае цяжкае — гэта перабудова ў ідэалагічнай, духоўнай сферах. Як пойдзе справа ў сферы дэмакратыі, у духоўнай сферы, так пойдзе і перабудова. Мы гэта добра разумеем, і ў гэтым адрозненне ад таго, што было пасля XX з'езда партыі. Без развіцця працэсаў у духоўнай сферы, у сферы дэмакратыі, без усталявання сацыялістычных і агульначалавечых каштоўнасцей перабудова не пойдзе.

На сустрэчы з журналістамі я сказаў: тое, што мы робім, — правільна і неабходна. Магчыма, у нечым мы і памыляемся, але ісціну трэба шукаць разам. Нельга забываць, што партыя і творчая інтэлігенцыя служаць інтарэсам народа. Такая пастаноўка пытання не павінна бянтэжыць усіх сапраўдных мастакоў. Вялікі мастак — гэта той, хто неабыякавы да лёсу народа, да болю народа. Калі чытаў вашы творы — «Сто гадоў адзіноцтва» і іншыя,— то адчуваў, што ў іх няма схем, што яны прасякнуты любоўю да людзей, да чалавецтва.

Думаю, мы павінны даражыць кожным пражытым днём пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. І самыя цяжкія дні не былі пражыты дарэмна. Усё гэта — наша гісторыя. Хіба можна дапусціць непавагу да тых пакаленняў, якія стваралі фундамент сацыялізму, якія далі нам магчымасць сёння ісці наперад? Былі, вядома, і памылкі, нават трагедыі. Але калі паглядзець на тое, чаго мы дасягнулі дзякуючы намаганням партыі і народа, то вынікі каласальныя. Без гістарычных каранёў няма народа. Дрэва без каранёў сохне, гіне.

**Гарсія Маркес.** Настальгія — небяспечная пастка, але толькі тады разумееш, што галоўнае — пражыць не дарэмна і зрабіць жыццё для людзей лепшым. Усё, што Вы гаворыце, глыбока кранае мяне, прымушае думаць аб лёсе маёй краіны, аб Лацінскай Амерыцы. Там велізарная цікавасць да вашай палітыкі. Спадзяюцца, што Вы наведаеце Лацінскую Амерыку.

**М. С. Гарбачоў.** У мяне вельмі вялікая цікавасць да гэтага кантынента, да яго лёсу. Гэта — кантынент велізарных патэнцыяльных магчымасцей, традыцый. Нягледзячы на ўсе цяжкасці, у народаў гэтага кантынента моцная цяга да лепшай будучыні. Але перашкоды тут вялікія, і вам яны вядомыя. Шлях да свабоды —гэта цяжкі шлях. Але я ўсё ж упэўнен, што рух Лацінскай Амерыкі па шляху прагрэсу будзе нарастаць. Спадзяюся бліжэй пазнаёміцца з ёй.

**Гарсія Маркес.** Ваш прыезд у Лацінскую Амерыку вельмі важны для ўсіх прагрэсіўных сіл кантынента.

Я ўдзячны Вам за гутарку. Пакідаю Маскву акрыленым больш, чым калі збіраўся сюды ехаць.

**М. С. Гарбачоў.** Вельмі рад сустрэчы з Вамі. У сучасных умовах, калі свет як бы знаходзіцца на гістарычным раздарожжы, слова аўтарытэтных дзеячаў сусветнай культуры мае велізарнае значэнне. Яно мацнейшае за зброю. Яно дапамагае зразумець, куды пойдзе свет, як яго будаваць, як захаваць цывілізацыю і жыццё на Зямлі. Людзі прыслухоўваюцца да Вашага слова, да таго, што Вы пішаце. Жадаю Вам поспехаў, спадзяюся на новыя сустрэчы з Вамі.

**ТАСС.**

## ІНТЭРВ'Ю Ў НУМАР



# КЛОПАТЫ ФОНДУ — КЛОПАТЫ НАРОДА

**Наш карэспандэнт гутарыць са старшынёй праўлення Беларускага аддзялення Савецкага фонду культуры, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР Іванам ЧЫГРЫНАВЫМ**

**— Шырокая дэмакратызацыя нашага жыцця, асабліва пасля XXVII з'езда КПСС, выклікала нараджэнне шэрагу новых грамадскіх арганізацый. Савецкі фонд культуры — арганізацыя сярод іх асаблівая. Сёння, як ніколі, бадай, раней, у жыцці грамадства ўзрастае роля пісьменнікаў, мастакоў, артыстаў, дзеячаў музыкі, тэатра, кіно, усіх, хто стварае духоўныя багацці, бо культура — гэта сапраўдны духоўны патэнцыял і самога грамадства, і, на дадзеным этапе, перабудовы. Толькі па-сапраўднаму высокаідэйнымі і высокамастацкімі творамі мы можам супрацьстаяць пранікненню так званай буржуазнай масавай культуры, а таксама шэрасці, прымітыву, з якімі мы сёння змагаемся. Важна яшчэ і захаваць усё лепшае, што створана папярэднікамі, што стала ўжо гісторыяй, гісторыяй культуры...**

— Прадчуваю ваша першае пытанне... Калі гаварыць наогул пра мэты і задачы Савецкага фонду культуры, дык, відаць, усё ж давядзецца звярнуцца да самога статута Фонду, дзе, як кажуць, усё распісана. Аднак ці ёсць у тым неабходнасць? Праект статута Савецкага фонду культуры друкаваўся, шырока абмяркоўваўся; думкі і прапановы, выказаныя грамадскасцю, былі ўлічаны. Таму спынюся толькі на асноўных момантах. Савецкі фонд культуры (і, зразумела, яго Беларускае аддзяленне) заклікаiны садзейнічаць найбольш поўнаму і глыбокаму засваенню багаццяў нацыянальнай, айчыннай і сусветнай культуры, эстэтычнаму, патрыятычнаму і інтэрнацыянальнаму выхаванню ўсіх слаёў насельніцтва...

**— І ў першую чаргу, відавочна, моладзі?**

— Фарміраванне пачуцця грамадзянскай адказнасці за стан і памнажэнне культурных каштоўнасцей, за далейшае развіццё савецкага мастацтва тычыцца, вядома, усіх. У адносінах жа да моладзі гэтая работа павінна мець куды большую практычную скіраванасць — арганізацыя шматлікіх выставак, выступленняў, канцэртаў, на якіх будуць прапагандавацца лепшыя ўзоры савецкага шматнацыянальнага мастацтва.

**— Аднак, Іван Гаўрылавіч, умовы неаднолькавыя, скажам, для тых, хто жыве ў буйным сучасным горадзе, і тых, хто жыве на перыферыі.**

— Выйсце ў тым, каб паскоранымі тэмпамі развіваць і ўмацоўваць матэрыяльную базу ранейшых устаноў культуры і ствараць новыя, садзейнічаць развіццю прафесійнага і самадзейнага мастацтва. А возьмем шматлікія аматарскія аб'яднанні, калекцыяніраванне. Аказанне дапамогі таленавітай моладзі ў яе творчым росце, выяўленне з далейшай сістэматызацыяй, стварэннем каталогаў культурна-гістарычных каштоўнасцей і нацыянальных рэліквій, якія знаходзяцца сёння ў прыватных калекцыях, каб уключыць іх у грамадскае карыстанне — усё гэта поле дзейнасці Фонду культуры. Будзем весці работу па адшукванні і вяртанні на Радзіму твораў мастацтва, архіўных матэрыялаў, розных помнікаў культуры і гісторыі, якія па розных прычынах трапілі за мяжу, каб перадаць іх архівам, музеям.

**— Для ўсяго гэтага неабходны сродкі. Фонд жа культуры — арганізацыя грамадская, павінна абыходзіцца сваімі сродкамі. А на членскіх узносах, як кажуць, далёка не паедзеш...**

— Членскіх узносаў, як у іншых грамадскіх арганізацыях, не будзе. У гэтым сэнсе Фонд культуры можна, бадай, параўнаць з Савецкім фондам міру, у які добраахвотна ўносяць пэўныя сумы як асобныя грамадзяне, так і арганізацыі, а таксама выдавецтвы, рэдакцыі газет і часопісаў за спецыяльна выдадзеныя кнігі, падрыхтаваныя нумары. Фонд міру даўно называюць, здаецца, з лёгкай рукі Барыса Палявога, фондам нашых сэрцаў. Дык Савецкі фонд культуры — фонд нашай душы, нашага сумлення. Не сумняваемся, што многія савецкія людзі палічаць за гонар, сваім душэўным абавязкам унесці на яго рахунак — рахунак Беларускага аддзялення значыцца пад № 700 — грошы. І, вядома ж, будуць прымацца творы мастацтва, гістарычныя рэліквіі, помнікі культуры, навукі, тэхнікі, усё, што мае гістарычную і культурную каштоўнасць. Маральным заахвочваннем тых, хто прыме ўдзел у рабоце фонду, стане шырокая галоснасць аб атрыманых у дар творах культуры. Будуць абнародавацца звесткі аб асобах і арганізацыях, якія перадалі культурныя каштоўнасці ці ўнеслі грашовыя ўклады,— вядома ж, са згоды асоб і арганізацый. Прадугледжана заахвочванне іх спецыяльнымі прэміямі, знакамі, граматамі, а найбольш заслужаныя стануць ганаровымі членамі Савецкага фонду культуры.

Не магу не сказаць яшчэ вось аб чым... Дэмакратызацыя ўсіх форм нашага жыцця самым непасрэдным чынам тычыцца і дзейнасці Фонду культуры. Гарантуецца, што сродкі, якія будуць сабраны, пойдуць непасрэдна толькі на тыя мэты, на якія яны прызначаліся.

**— Іван Гаўрылавіч, устаноўчая канферэнцыя Беларускага рэспубліканскага аддзялення Савецкага фонду культуры адбылася зусім нядаўна, у канцы красавіка, а самому фонду няма яшчэ і года... Можна гаварыць пра першыя яго крокі, напрыклад, пра першыя ўзносы?**

— У нашай рэспубліцы многія дзеячы мастацтва і культуры даўно падтрымліваюць цесныя сувязі з асобнымі працоўнымі калектывамі, прапануючы ім свае творы. Ці, скажам, даўно сябруе з пагранічнікамі скульптар А. Курачкін. Яшчэ ў 1967 годзе ён перадаў у дар ім скульптурны партрэт Героя Савецкага Саюза лейтэнанта Андрэя Кіжаватава. У многіх часцях Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі ўстаноўлены сёння бюсты герояў Вялікай Айчыннай вайны, выкананыя А. Курачкіным на грамадскіх пачатках.

Больш за 70 жывапісных і графічных работ падарылі музею саўгаса «Гарадзец» Шаркоўшчынскага раёна Віцебскай вобласці В. Цвірка, А. Паслядовіч, Л. Шчамялёў, А. Марачкін, У. Савіч, А. Кашкурэвіч і іншыя нашы мастакі, якія сталі ініцыятарамі стварэння гэтага асяроддзя культуры.

Карцінную галерэю мяркуецца стварыць у Капылі. Аснову яе экспазіцыі складуць работы ленінградскага мастака Розіна, які нарадзіўся ў вёсцы Вошкаты Капыльскага раёна, вучыўся ў капыльскай школе, часта бываў у сваіх землякоў. Перад смерцю ён завяшчаў перадаць свае творы ў аддзел культуры Капыльскага райвыканкома. Мастацкія каштоўнасці не хацелася б ацэньваць у грашовым выражэнні, тым не менш не магу не сказаць, што кошт гэтай калекцыі 70 тысяч рублёў.

Ствараецца карцінная галерэя і ў калгасе «Чырвоны сцяг» Валожынскага раёна, аб чым «Літаратура і мастацтва» паведамляла. Скульптурныя і графічныя работы свае перадаў для яе мастак А. Кандрацьеў.

Сярод тых, хто пералічыў аднымі з першых грашовыя сродкі на рахунак Савецкага фонду культуры, — Алена Шахала са Смалявіч, работнік рэспубліканскай філармоніі Г. Абібак. Атрыманую ім прэмію Ленінскага камсамола Беларусі перадаў у Фонд культуры калектыў ансамбля песні і танца «Сузор'е» будаўнічага трэста № 8 горада Брэста.

**— Паступілі і першыя ўзносы ад пісьменнікаў?**

— Грошы пералічылі Святлана Алексіевіч і Эдуард Скобелеў. Апошні перадаў ганарар за кнігу паэзіі «Земные долги», якая выйшла сёлета ў выдавецтве «Юнацтва».

**— Вядома, што Савецкі фонд культуры распрацаваў шэраг праграм, разлічаных на бліжэйшыя гады, якія мяркуе ажыццяўляць з шырокім прыцягненнем грамадскасці, а таксама іншых зацікаўленых устаноў і арганізацый...**

— Такіх праграм распрацавана чатыры. Першая, галоўная, называецца «Памяць». Задача яе — выяўленне каштоўнасцей, якія ў гады вайны трапілі за мяжу, і вяртанне іх, а таксама садзейнічанне зберажэнню, рэстаўрацыі помнікаў культуры і гісторыі на тэрыторыі рэспублікі. Скажу аб гэтай праграме крыху падрабязней. Як вядома, у час акупацыі Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны нямецка-фашысцкія захопнікі знішчылі многія помнікі гісторыі і культуры, вывезлі ў Германію найбольш каштоўныя кнігі з буйнейшых бібліятэк, найперш — старадрукі і рэдкія выданні, разрабавалі Дзяржаўны музей БССР. За мяжой апынуўся багаты архіў Акадэміі навук рэспублікі, калекцыі Баранавіцкага музея. Многія з гістарычных і культурных каштоўнасцей дагэтуль не вернуты на радзіму.

Вялікую ўвагу звернем і на захаванне даўніны на тэрыторыі рэспублікі. Сёння ў рэспубліцы 15210 помнікаў гісторыі і культуры, з якіх 10815 узяты пад ахову дзяржавы. Ансамблі старадаўніх цэнтраў і комплексы гістарычнай забудовы захаваліся ў 34 гарадах. Пачата работа па захаванні іх, да яе актыўна далучаецца Фонд культуры. У першую чаргу будуць рэстаўрыраваны, рэканструяваны такія цэнтры ў Нясвіжы, Мсціславе, Слоніме, Полацку, Гродне.

**— Прыкладна гэтымі ж пытаннямі займаецца і Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры...**

— Адрозненне Фонду культуры ад таварыства ў тым, што мы імкнёмся не толькі зберагаць усё з мінулага, што варта ўвагі і памяці нашай і нашых нашчадкаў, але і садзейнічаць стварэнню новых каштоўнасцей нацыянальнай культуры. Гэта — калі гаварыць аб галоўным адрозненні. У цэлым жа ўся работа фондам будзе праводзіцца на больш дэмакратычнай аснове, з шырокім прыцягненнем прадстаўнікоў грамадскасці. Дарэчы, мы маем намер самым цесным чынам працаваць і з актывістамі таварыства. Асноўны накірунак нашых кантактаў — падтрымка тых, хто ўзнімае свой голас у абарону архітэктурных, гістарычных і культурных рэліквій, якія па нейкіх прычынах сёння знаходзяцца ў небяспецы. А іх, на жаль, нямала, каля 8 тысяч помнікаў.

Чытачам «ЛіМа» будзе цікава даведацца, што Савецкі фонд культуры ўнёс прапанову аб зацвярджэнні адзінай для Савецкага Саюза сістэмы ўліку помнікаў, абеліскаў, мемарыяльных дошак, памятных знакаў, а таксама будынкаў і збудаванняў, якія маюць гістарычную і культурную каштоўнасць. Мяркуецца стварыць спецыяльны агульнадзяржаўны банк помнікаў культуры, іх стану і выкарыстання. Уносіцца прапанова і аб тым, каб апошнюю суботу красавіка кожнага года лічыць днём Памяці.

**— Колькі слоў, калі ласка, пра іншыя доўгатэрміновыя праграмы Фонду культуры.**

— Шмат увагі ўдзелім рабоце па адраджэнні, папулярызацыі і ўвекавечанні гісторыка-літаратурных мясцін рэспублікі, звязаных з імёнамі вядомых пісьменнікаў, мастакоў, асветнікаў, вучоных. Прозвішчы называць не буду, бо гэта вялікі спіс. Мяркуецца, што сродкі ад асоб і арганізацый будуць пераводзіцца на канкрэтны помнік. Не застанемся ўбаку і ад стварэння экспазіцыі музея гісторыі кнігадрукавання — ён павінен адчыніць свае дзверы ў Полацку да 500-годдзя з дня нараджэння Францыска Скарыны.

Назвы яшчэ дзвюх праграм гавораць самі за сябе — «Моладзь і культура» і «Комплексная праграма эстэтычнага выхавання насельніцтва рэспублікі».

**— Відаць, у аддзяленне паступіла ўжо нямала канкрэтных прапаноў аб тым, як працаваць фонду далей, на што звярнуць увагу ў бліжэйшы час?**

— Адно з пажаданняў такое: улічваючы выключную самабытнасць, багацце і старадаўнасць беларускага фальклору, увайсці ў Вярхоўны Савет БССР з хадайніцтвам аб ахове яго адпаведным заканадаўствам. Заслугоўвае падтрымкі прапанова акадэміка Д. Ліхачова аб утварэнні ў кожнай рэспубліцы дзяржаўных камітэтаў аховы нацыянальных моў. Цікавая і такая прапанова — па прыкладзе Латвіі штогод праводзіць рэспубліканскае свята мовы. Выказваецца пажаданне, каб увесці ў курс навучання ўсіх студэнтаў і навучэнцаў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных устаноў рэспублікі, якія рыхтуюць спецыялістаў асветы, культуры, меліярацыі сельскай гаспадаркі і будаўніцтва, курс па гісторыі культуры Беларусі і яе ахове.

**— Застаецца пажадаць, Іван Гаўрылавіч, плёну ў вашай рабоце.**

— Дзякуй. Карыстаючыся выпадкам, хачу звярнуцца да ўсіх, каго цікавіць работа Фонду культуры, з заклікам падтрымаць Беларускае аддзяленне ў пачатку яго дзейнасці. Гэта можа быць асабісты грашовы ўклад, адлічэнні ад канцэртаў, тэатральных пастановак і іншых мерапрыемстваў, ганарары ад спецыяльных нумароў газет і часопісаў, кніг, правядзенне суботніка з пералічэннем заробленых грошай на рахунак № 700. Хацелася б, каб падтрымку фонду аказалі таксама і кіраўнікі творчых саюзаў рэспублікі — як супрацоўніцтвам пры правядзенні калектыўных мерапрыемстваў, так і матэрыяльна. Актыўнымі памочнікамі ў ажыццяўленні праграм фонду могуць і павінны стаць саветы, атрады, ініцыятыўныя групы, якія неўзабаве будуць створаны паўсюдна на грамадскіх пачатках. Клопаты фонду павінны стаць клопатамі ўсяго народа. Толькі такім чынам можна паспяхова ажыццявіць пастаўленыя задачы.

## «ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

### ПЕРАДАДЗЕНА АЛЕСЕМ АДАМОВІЧАМ

**У Цэнтральны дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва БССР паступілі на дзяржаўнае захаванне матэрыялы Алеся Адамовіча. У выніку навукова-тэхнічнай апрацоўкі сфарміравана 414 адзінак захоўвання, што ахопліваюць 1942—1986 гады і склалі трэці вопіс фонду вядомага пісьменніка.**

**Матэрыялы трэцяга паступлення прадстаўлены адзінаццаццю рукапісамі літаратуразнаўчых прац і літаратурна-крытычных артыкулаў, а таксама рэдакцыямі аповесці «Карнікі» (1971—1979), лістамі В. Асноцкага, В. Распуціна і іншымі. Выяўленчыя дакументы фонду — здымкі А. Адамовіча з К. Сімонавым, А. Бачаровым, У. Калеснікам у час пісьменніцкіх з'ездаў, творчых паездак і сустрэч.**

**А. ПІСЬМЯНКОВА, супрацоўнік ЦДАМЛМ БССР.**

### НА САМАДЗЕЙНАЙ СЦЭНЕ

**70-годдзю Вялікага Кастрычніка прысвяціў сваю новую работу — спектакль па п'есе М. Шатрова «Дыктатура сумлення» — народны тэатр юнага гледача Мінскага камвольнага камбіната. Рэжысёр-пастаноўшчык спектакля Я. Бытноўскі, мастак-пастаноўшчык Г. Лапшын. У ролях заняты вадзіцель М. Лазоўскі, рабочы В. Валавік, інжынер У. Армікін і іншыя.**

**П. ГАРДЗІЕНКА.**

### СУСТРЭЧЫ НА СТАЎБЦОЎШЧЫНЕ

**Гасцямі працоўных раёна былі празаік А. Масарэнка, паэты Я. Крупенька і Г. Тумаш. На сустрэчах, якія адбыліся ў калектывах калгаса «Нёман», Стаўбцоўскай райаграпрамтэхнікі, Навасвержанскага лесазавода, МПМК-233, чыгуначнай станцыі «Стоўбцы» і іншых, ішла гаворка аб надзённых праблемах нашага жыцця і літаратуры.**

**Сустрэліся пісьменнікі і з членамі літаратурнага гуртка раённай газеты «Прамень» і клуба аматараў паэзіі «Факел», які дзейнічае пры раённай бібліятэцы.**

**С. ГАЛОЎКА.**

### АПОРНЫ ПУНКТ «ЮНАЦТВА»

**Магазін «Кніжны свет» горада Ліды з'яўляецца апорным пунктам выдавецтва «Юнацтва». Адміністрацыя, актывісты гарадскога клуба «Субяседнік», што дзейнічае пры гэтай кнігарні, падтрымліваюць пастаянныя і цесныя сувязі з беларускімі пісьменнікамі.**

**Не так даўно гасцямі магазіна былі В. Адамчык, Р. Барадулін, В. Казько, М. Стральцоў. Прайшоў тут і дзень выдавецтва «Юнацтва». У гэты дзень В. Коўтун, С. Панізнік і Х. Лялько пазнаёмілі прадаўцоў магазіна, бібліятэчных работнікаў, кнігалюбаў, старшынь пярвічных арганізацый таварыства аматараў кнігі, грамадскіх распаўсюджвальнікаў літаратуры з тэматычным планам выдавецтва на 1988 год, уласнымі творчымі планамі.**

**П. МАКАРЭВІЧ.**

**КАРОТКІЯ РЭЦЭНЗІІ**

# ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК ПРЫКАЗАК

*І. Шкраба, Р. Шкраба. Крынічнае слова. Мн., «Мастацкая літаратура», 1987.*

У гісторыі збірання і асэнсавання беларускіх прыказак самай значнай з'явай дарэвалюцыйнага часу з'яўляецца праца І. Насовіча «Зборнік беларускіх прыказак» (СПб., 1874). У адрозненне ад іншых фалькларыстаў (Я. Ляцкага, А. Сержпутоўскага, М. Федароўскага і інш.) І. Насовіч не проста падае ў алфавітнай паслядоўнасці сабраныя ім згусткі народнай мудрасці, але і раскрывае сэнс амаль кожнай прыказкі. Таму яго працу слушна лічаць першым у гісторыі ўсходнеславянскай філалогіі тлумачальным *слоўнікам прыказак*. У ім 3715 прыказак і прымавак.

У савецкі перыяд працягвалася збіранне і публікацыя прыказак (зборнікі Ф. Янкоўскага, П. Ахрыменкі, М. Буцько і інш.), іх тэарэтычнае асэнсаванне (працы К. Крапівы, М. Янкоўскага і інш.). У 1976 г. быў выдадзены двухтомны акадэмічны звод беларускіх прыказак і прымавак. Тут іх звыш 12 тысяч. Яны размешчаны на аснове прадметна-тэматычнага прынцыпу, іх індывідуальны сэнс не раскрываецца. Зразумела, выхад гэтага фундаментальнага зводу не ставіць кропку на далейшым збіранні і даследаванні прыказак. Па-за гэтым зводам, відаць, яшчэ засталася прыказкавая неруш, і яе трэба збіраць, адкрываць, вывучаць. Але *менавіта неруш, а не тое, што* ўжо адкрыта, зафіксавана. А між тым і сёння ўключаюць у новыя дыялектныя слоўнікі даўно вядомыя прыказкі, занатаваныя ў акадэмічным зводзе і ў многіх зборніках. Амаль не працуюць на папаўненне ўсенароднай прыказкавай скарбонкі і выдадзеныя два гады назад новыя зборнікі «Слова міма не ляціць» В. Ліцвінкі і Л. Царанкова, «Паслухай, што людзі кажуць» В. Рабкевіча. Нерушы тут вельмі мала. Па сутнасці, гэта «паўтарэнне пройдзенага».

Думаецца, што далейшы шлях навукі аб прыказках звязаны з яе развіццём не столькі ўшыр, колькі ўглыб. І першай ластаўкай на гэтым шляху з'яўляецца кніга І. Шкрабы і Р. Шкрабы «Крынічнае слова». Яна, як слушна сказана ў анатацыі, ні структурай, ні матэрыялам не паўтарае выданняў гэтага тыпу. Гэта першы тлумачальны слоўнік прыказак, выкарыстаных у творах мастацкай літаратуры.

Правільна выявіць, што абазначае прыказка, часцей за ўсё можна толькі ў больш шырокім кантэксце. Такімі кантэкстамі сталі для аўтараў слоўніка выбаркі з мастацкіх твораў. Гэтыя выбаркі-цытаты, прыведзеныя ў слоўніку, пераконваюць чытача ў сапраўдным існаванні пэўнага значэння, уласцівага данай прыказцы. Адначасова яны паказваюць, у якіх маўленчых абставінах выкарыстоўваецца прыказка, як і калі яе можна ўжыць. Інакш кажучы, ілюстрацыйны матэрыял у слоўніку такога тыпу мае выключна важнае значэнне, бо дае поўнае ўяўленне аб змесце і ўжыванні прыказкі. Дарэчы, у раней названым слоўніку-зборніку І. Насовіча, складзеным на аснове запісаў з жывой народнай мовы, ілюстрацыі адсутнічаюць, і гэта збядняе паказ сэнсавага зместу прыказак.

Прыказка **да пары збан ваду носіць** атрымала ў «Крынічным слове» такую сэнсавую і сітуацыйную характарыстыку: «Усё мае свой канец. Часам гаворыцца ў якасці асуджэння: як бы чалавек ні ўтойваў свае намеры або свае ўчынкі, усё ўрэшце выйдзе наверх». Далей у слоўнікавым артыкуле ідуць дзве ілюстрацыі-пацвярджэнні з твораў Я. Купалы і А. Жука.

Прыказкі, калі іх разглядаць з семантычнага боку, далёка не аднародныя моўныя адзінкі. І гэта паслядоўна ўлічваецца аўтарамі слоўніка. Калі прыказка мае алегарычны сэнс, г. зн. у ёй гаворыцца пра адно, а маецца на ўвазе зусім іншае, яна абавязкова тлумачыцца ў слоўніку. Дарэчы, такіх прыказак пераважная большасць. Адзін прыклад: **яблык ад яблыні далёка не падае**— «кажуць, калі станоўчыя рысы або недахопы дзяцей пераняты ад бацькоў». У другой групе прыказак няма поўнага пераасэнсавання ўсіх кампанентаў, частка слоў захоўвае сваё літаральнае значэнне, таму іх змест перадаецца з выкарыстаннем непераасэнсаваных слоў: **п'янаму мора па калена**—«п'янаму нічога не страшна». Ёсць і трэцяя група прыказак, якія ўжываюцца толькі ў прамым значэнні і таму не патрабуюць тлумачэння: **старасць—не радасць; стары друг лепш за новых двух.**

У слоўніку знаходзім нямала прыказак, якія ў сэнсавых адносінах вельмі блізкія паміж сабой ці тоесныя. На сінанімічнасць такіх прыказак паказваюць паметы «тое самае, што:» або «параўн.»; напрыклад: **з ваўкамі жыць—па-воўчы выць**—тое самае, што: **сярод варон жыўшы—варонай і каркай; не кажы гоп, пакуль не пераскочыш**—параўн. **не хваліся, ідучы на рацъ.**

Адлюстравана ў слоўніку і варыянтнасць прыказак. У адных выпадках, калі гэтым не парушаецца алфавітны парадак, варыянтнасць пададзена ў загалоўку слоўнікавага артыкула: **ліслівае цяля (цялятка) дзве маткі (дзвюх матак) ссе.** У другіх—праз памету «гл.»: **прыйдзе і на крапіву мароз. Гл. будзе і на крапіву мароз.**

Аўтары слоўніка імкнуліся пераадолець даўнюю традыцыю, практыку, характэрную для ўсіх папярэдніх парэміялагічных зборнікаў, куды побач з прыказкамі ў якасці нібыта прымавак ўключаліся тыповыя фразеалагізмы. Апошнія, як вядома, адрозніваюцца ад прыказак па ўсіх параметрах: называюць не суджэнне, а паняцце, не валодаюць ні сэнсавай, ні інтанацыйнай закончанасцю, уступаюць у сувязь са словамі свабоднага ўжывання і з'яўляюцца будаўнічым матэрыялам для сказаў. Пералічаныя асаблівасці не ўласцівы прыказкам. На жаль, і ў «Крынічнае слова» трапіла каля 30 фразеалагізмаў (давай бог ногі, з гразі ды ў князі, з плеч ды ў печ, не верыць сваім вачам, не першы год замужам, пасаліўшы можна есці, смех і грэх, чым чорт не жартуе; хто ў лес, хто па дровы і інш.).

Хочацца спадзявацца, што аўтары гэтай карыснай кнігі, у якой апісана толькі нязначная частка прыказак, што бытуюць у нашай літаратурнай мове, працягнуць збіранне фактычнага матэрыялу, каб праз нейкі час выдаць больш поўны даведнік пра моўныя самацветы.

**Іван ЛЕПЕШАЎ,**
**прафесар Гродзенскага універсітэта.**

# Ён зваўся Францыскам

Мне думаецца, што даследчыкі аказалі б самому Скарыне значна большую павагу, калі б лічыліся з сапраўдным яго гістарычным іменем, не ўпрыгожваючы гэта імя ўласнымі домысламі.

А. В. ФЛАРОЎСКІ.

**Дзейнасць і асоба Францыска Скарыны заўсёды прыцягвалі пільную ўвагу даследчыкаў. Аднак і сёння, калі набліжаецца паўтысячагадовы юбілей з часу нараджэння славутага першадрукара, далёка не ўсе спрэчныя пытанні скарыназнаўства высветлены.**

**13 лютага гэтага года «ЛіМ» надрукаваў артыкул У. Казберука, у якім даследчык выказаў меркаванне, што сапраўднае імя Скарыны было — Францішак. Але не ўсе навукоўцы пагаджаюцца з версіяй У. Казберука. І сёння рэдакцыя штотыднёвіка прапануе чытачам пазнаёміцца з нататкамі бібліёграфа В. Дышыневіч і з артыкулам вядомага мовазнаўцы А. Жураўскага, якія падагульняе размову на гэтую тэму.**

У РЭСПУБЛІЦЫ вядзецца актыўная падрыхтоўка да нацыянальнага свята —500-годдзя з часу нараджэння Францыска Скарыны. У Акадэміі навук БССР распрацоўваецца рэспубліканская комплексная праграма «Францыск Скарына — вялікі беларускі асветнік-гуманіст, выдатны дзеяч славянскай культуры».

Праграма мае мэтай пашырэнне і паглыбленне фронту навуковых даследаванняў культурна-гістарычнай спадчыны Скарыны, беларускай культуры эпохі Адраджэння.

Усё гэта накладвае на даследчыкаў абавязак з пачуццём высокай грамадзянскай адказнасці аднесціся да вывучэння жыцця і дзейнасці беларускага першадрукара, старанна і аб'ектыўна даследаваць, разабрацца і асвятліць перш за ўсё факты біяграфіі славутага палачаніна. Многае ў гэтых адносінах ужо зроблена. Таму дзіўным і нечаканым выглядае імкненне некаторых даследчыкаў яшчэ раз закранаць і па-свойму тлумачыць пытанні, якія ўжо былі вырашаны раней.

Нядаўна спробу ўнесці свой уклад у скарыназнаўства зрабіў Уладзімір Казбярук, апублікаваўшы артыкул «Як усё ж звалі беларускага першадрукара?» («Літаратура і мастацтва», 13.II.1987). У артыкуле аўтар ставіць адно толькі пытанне аб «сапраўдным» імені Скарыны. Сутнасць яго разважанняў зводзіцца да таго, што ўжывальнае ў сучасных беларускіх і рускіх публікацыях пра Скарыну імя **Францыск** — памылковае і няправільнае, перавагу належыць аддаваць форме **Францішак.**

Сваё перакананне У. Казбярук імкнецца абгрунтаваць перш за ўсё моўнымі фактамі, якія ў сучасным мовазнаўстве з яго мудрагелістай тэрміналогіяй прынята адносіць або да інтралінгвістычных (унутрымоўных), або экстралінгвістычных (пазамоўных).

Аднак, на жаль, **ніводзін** з моўных фактаў, якія выкарыстовае для сваіх доказаў У. Казбярук, **не падыходзіць** для падмацавання яго думак, літаральна кожны з такіх фактаў аказаўся ў артыкуле не на сваім месцы. Артыкул паказвае, што аўтар мае даволі цьмянае ўяўленне аб такіх з'явах беларускай мовы, як цеканне, чаргаванне зычных, беглыя галосныя, і адвольна маніпулюе імі для доказу сваёй канцэпцыі.

У. Казберука яўна не задавальняе факт, што (цытуем): «У адпаведнасці з нормамі рускай арфаэпіі вучоныя вымаўлялі ўскосныя склоны скарынінскага імені «Францыска», «Францыском» як «Францыска», «Францыскам», забываючы або не ведаючы (ці проста не жадаючы прымаць пад увагу), што ў беларускай мове, у адрозненне ад рускай, «ц» перад «і» (тады яно пісалася як «и») змякчаецца. Імя «Францишек», «Францыска», «Францыском» (тыя формы, якія сустракаюцца ў самога Скарыны) сваім паходжаннем звязана з польскай мовай, а там «ц» перад «і» таксама змякчаецца».

Тут аўтар заблытаўся сам і свядома ці несвядома навязаў памылковую думку чытачам. Кожны сучасны студэнт-філолаг ведае, што беларускай мове ўласціва так званае цеканне — вымаўленне мяккага «ц» перад галоснымі пярэдняга рада «е» і «і» на месцы ранейшага «т»: **цела, цень, ціха** (у рускай мове цекання няма, таму там пішацца і вымаўляецца **тело, тень, тихо**). Таму ж студэнту вядома, што этымалагічны (спрадвечны) гук «ц» (які не паходзіць з «т») і ў беларускай, і ў рускай мовах зацвярдзеў і ў абедзвюх мовах вымаўляецца аднолькава цвёрда. У беларускай мове, дзе асноўным з'яўляецца фанетычны прынцып правапісу, цвёрдае вымаўленне «ц» перадаецца на пісьме, тады як у рускай мове з яе традыцыйным гісторыка-этымалагічным прынцыпам правапісу цвёрдае вымаўленне такога «ц» на пісьме не абазначаецца. У рускіх словах **целить, целый, цеп** і беларускіх **цэліць, цэлы, цэп** аднолькава вымаўляецца цвёрды гук «ц». Гэта адносіцца асабліва да запазычаных слоў. Рускія **ценз, центр, цех, цинк, цирк** і беларускія **цэнз, цэнтр, цэх, цынк, цырк** таксама не маюць ніякіх адрозненняў у вымаўленні. Імя «Францыск» як запазычанае не толькі ў беларускай, але і ў рускай мове вымаўляецца як **Францыск**, і падазраваць тут якую-небудзь «лукавую тэндэнцыю» з боку рускіх аўтараў няма падстаў.

У адпаведнасці з гэтай агульнай для беларускай і рускай моў заканамернасцю ненатуральным было б вымаўленне ў беларускай мове скарынінскіх форм **Францишек, Франциска, Франциском** як **Францішак, Францiска, Францiскам**. Скарынінскую форму **Францишек** няма падстаў атаясамліваць з сучаснай польскай формай Franciszek. Вымаўлялася гэта форма ўжо ў часы Скарыны несумненна з цвёрдым «ц», таму на сучаснае беларускае пісьмо яе можна транскрыбіраваць як **Францышак.** У карысць такога меркавання сведчаць запісы імя Скарыны ў тагачасных актавых дакументах, дзе фанетычны прынцып правапісу прабіў сабе дарогу раней, чым у рэлігійнай пісьменнасці, да якой і адносяцца ўсе выданні Скарыны. Буйнейшы даследчык жыцця і дзейнасці Скарыны П. У. Уладзіміраў у сваёй манаграфіі «Доктор Франциск Скорина, его переводы, печатные издания и язык» (СПб, 1888) прыводзіць актавыя матэрыялы з Літоўскай метрыкі 1529 г., дзе запісана судовая справа Скарыны (У. Казбярук аб гэтых запісах нічога не гаворыць, бо яны не пацвярджаюць яго меркаванні). Тут імя Скарыны зафіксавана 8 разоў: у форме назоўнага склону **Францышко** — 1 раз, у форме роднага склону **Францышка** — 5 разоў і ў форме давальнага склону **Францышку** — 2 разы. У судовых запісах 1535 г. імя Скарыны таксама зафіксавана ў форме **Францышко.** Усё гэта сведчыць, што ўжо ў часы Скарыны яго імя вымаўлялася з цвёрдым «ц». Калі б

# Пытанне зусім не простае ...

**Якім было імя Скарыны? — гэта адно са складаных пытанняў скарыназнаўства, і яго нельга звесці толькі да лінгвістычных пошукаў у адносінах да імя Францыск. Вядома, што Скарына нарадзіўся ў праваслаўным Полацку, што продкі яго мелі праваслаўныя імёны. З гэтага вынікае, што і ў яго першапачаткова было іншае імя, бо праваслаўнага імя Францыск няма.**

**Пытанне аб праваслаўным імені не фармальнае, бо ў імені чалавека, асабліва мінулых стагоддзяў, яго нацыянальныя, культурныя карані. Беларускі вучоны быў цесна звязаны з традыцыямі роднага народа, які шмат стагоддзяў трымаўся праваслаўя і змагаўся за яго захаванне ва ўмовах прыцясненняў з боку рымска-каталіцкай царквы. Выданні Скарыны задуманы і надрукаваны менавіта ў адпаведнасці з вострымі патрэбамі часу дзеля духоўнага і маральнага ўмацавання «люду простага паспалітага» праваслаўнай Беларусі.**

**На праваслаўныя характар і арыентацыю выданняў Скарыны звярнулі ўвагу ў XIX ст. В. Віктараў, вядомы даследчык П. Уладзіміраў, пазней акадэмік Я. Карскі. Гэта пацвярджае і зроблены намі тэксталагічны аналіз прадмоў Скарыны («Весці АН БССР». *Серыя грамадскіх навук.* 1985, № 3), і сам склад выдадзеных ім кніг: у скарынінскіх прадмовах да Бібліі выкарыстаны творы ўсходняй патрыстыкі, даводзяцца хрысціянскія догматы без пазнейшых каталіцкіх дапаўненняў, «Малая падарожная кніжка» ўяўляе сабою зборнік адпаведных богаслужэбных тэкстаў, у ёй змешчаны праваслаўны «Сімвал веры», ёсць малітва «за праваслаўных хрысціян» без абавязковага для католікаў і уніятаў упамінання імя папы рымскага, дадзены «Месяцаслоў» з імёнамі праваслаўных святых. Змест яе сведчыць аб добрым веданні самой традыцыі складання праваслаўных царкоўных кніг (па сутнасці гэта традыцыйны Псалтыр з наследаваннем). У перакладзе Бібліі адчуваецца глыбокае веданне і выкарыстанне славянскіх спісаў ад часоў Мяфодзія і Кірылы.**

**Сувязь Скарыны са славянскай кніжнай традыцыяй — менавіта ў ягоным паходжанні з Полацка, які быў апорай праваслаўя на Захадзе і ў гэтым сэнсе меў нават прывілеі ў Вялікім княстве Літоўскім. Тут знаходзіліся і славутыя бібліятэкі Полацкага праваслаўнага Сафійскага сабора і Прадцечанскага манастыра. Каталіцкая місія бернардзінцаў толькі з'явілася ў Полацку і вяла сябе талерантна: ад пераходзячых у каталіцтва праваслаўных яшчэ не патрабавалася перахрышчвацца, захоўвалася права на праваслаўнае прычашчэнне і абрады. Гэта адпавядала патрэбам тых нямногіх палачан, што ў мэтах кантактаў з Захадам прымалі каталіцтва. Таму верагоднай здаецца версія польскага даследчыка Кантака, што *сям'я полацкага купца* Скарыны прыняла каталіцтва. Гісторыя захавала праваслаўныя імёны бацькі і брата першадрукара — Лука і Іван. Якое імя на-**

**ПАЭЗІЯ**

**Валянцін ТАРАС**



Звычайна ў газеце даты пад вершамі не ставяцца. У гэтай жа падборцы без дат не абысціся, бо некаторыя з вершаў былі напісаны яшчэ ў сямідзесятыя гады. Перачытаў іх цяпер. Падалося, што яны маюць права на жыццё. Нічога ў іх не папраўляў, толькі пераклаў на беларускую мову, — пісаліся яны па-руску. Прапаную іх увазе чытача разам з новымі, нядаўнімі.

Аўтар.

●

Цячэ рака ў абдымках дамбы.
Бруіцца плынь між берагоў,
нібы засмучаныя ямбы
паўнютkіх роздуму радкоў.

Навошта ж дамба? Недарэчна.
Пагрозы не відаць ані.
Такая сцішаная рэчка
ў такой лагоднай цішыні!

Шэпт хваляў цешыць і лагодзіць,
як лад лірычнага радка...

Ды ты забыўся пра разводдзе,
калі мяняецца рака

і, адпусціўшы цуглі хвалям—
сваім грывастым скакунам,—
віруе і заслоны валіць,
лоб разбівае валунам.

Стаў шэпт лагоды гулам грозным,
падобным водгуллю гармат,
нібыта шэпт,
чый горкі роздум
ператвараецца ў набат.

Салодкагучнасць знікла з ямба—
бунтуюць вольныя радкі!
Дык вось чаму над рэчкай—дамба,
над вершамі—вартаўнікі...
1972

## Адплата

Быў повен бескарыслівых намераў,
імкнуўся жыць, як кодэксы вучылі,—
я верыў ім!
Ды мне ніхто не верыў.
Праўдзівым быў—манюкаю лічылі.

Прыйшлося мне інакш жыць вучыцца.
Пераканаўся ўрэшце я, што людзі
не любяць праўды, вераць небылiцам,
адмовіцца не хочуць ад ілюзій.

Што толькі раздражняюць іх пытанні—
ім падавай гатовыя адказы,
што ісціна пры ўсім маім старанні
ў вачах людзей—
бяздоказныя фразы.

І стаў я прыстасоўвацца патроху,
стаў выдумляць я суцяшэнні людзям,
і стала грошай, што таго гароху,
і пірагі з'явіліся на блюдзе.

Няма чаго мне наракаць на бога:
як той казаў, і сыты, і абуты.
Але чаму гняце мяне трывога?
Чаму прыйшлі бяссонніцы пакуты?

І ў горла пірагі дзяўно не лезуць,
не цешыць тое, што ў ашчаднай скрыні,
і, нібы па пякельнаму жалезу,
па пратаптанай я іду сцяжыне...
1979

**ДЭБЮТ**

**Юрый КІСЯЛЕЎСКІ**



# Шукаючы для сэрца асалоды

*Юрый Кісялеўскі нарадзіўся і вырас у Гродне. Яму тут добра, яму не хочацца ўцякаць ад стомы ў лес, ды ён яшчэ не стаміўся. Ён гарадскі па натуры, і мова яго вершаў гарадская, мова інтэлігента, мова прачытаных кніг.*

*«А я блакіт малюю неба ў прасторы ўласнае душы» — гэта не скарга на гарадскую цеснату, а захапленне горадам.*

*Неяк сказала яму, што ў горадзе, дзе яго ведаюць усе гарадскія звяркі, у ягоным узросце вершы можна складаць у хадзе па завулках, а ён запярэчыў, што ў ягоным выпадку гэты спосаб, відаць, не прыдатны, таму што імкнецца як мага дакладней выказаць скупым словам думку без лішняга эстэцтва. А гэта патрабуе засяроджанасці... І прыгадаўся Максім Багдановіч, яго споведзь у лісце ў альманах «Маладая Беларусь» ад 27 лістапада 1911 года: «Апрыч таго, фактам з'яўлення іх хацеў я давесці здатнасць нашай мовы да самых строгіх вымог вяршоўнай формы, бо я ім задавальняў нават у драбніцах, іншы раз вельмі цяжкіх....» Усе пошукі ў Юрыя Кісялеўскага наперадзе, але выбраў ён харошы кірунак — птушыную дарогу Максіма Багдановіча. У перакладчыцкіх спробах — таксама. Нават любімыя паэты ў іх адны. Юрый таксама першым назаве П. Верлена, якога так дасканала пераклаў Максім Багдановіч. Але Юрый спрабуе перакладаць і Кіплінга, Гейнэ, Катула, Тувіма... Імкнецца наблізіцца да арыгінала, шукае магчымасці нічога не згубіць, яшчэ і высвятліць дэталі.*

*Любімыя вершы Юрый чытае па памяці з апраўданнем: «Гэта і мая філасофія...» У ім увасоблена тая шчаслівая ява, калі чытаецца ўсё, вартае густу інтэлігента. А размаўляць з ім добра яшчэ і таму, што па натуры мяккі, уважлівы. Ствараецца ўражанне, што ён няздольны крыўдзіць, але сябра яго жартавай, што Кісялеўскі ставіць «неуды» нават прыгожым студэнткам. Ён выкладае біяхімію ў Гродзенскім медінстытуце, які сам скончыў два гады таму назад, займаецца навуковымі даследаваннямі. Наведвае беларускі клуб «Паходня», дзе ўдасканальвае веданне роднай гісторыі і дзе мы і спаткаліся.*

*Пакуль што 26-гадовы малады паэт вядомы толькі чытачам «Гродненской правды» і навапалацкага «Химика».*

*З ахвотаю благаслаўляю Юрыя Кісялеўскага на адчайны крок у штотыднёвік «Літаратура і мастацтва».*

**Данута БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА.**

## Роднай Беларусі

Цябе малюючь з прагнай асалодай
Такой прыгожай, лялечнай падчас...
Табе ж не трэба штучнай пазалоты
І грому не патрэбна гучных фраз.

Ты не дзівосны кут, ты край звычайны,
Твой сціплы від не вабіць знатакоў.
Твая гісторыя не рве і не злучае
Прастор зямель і бурны ход вякоў.

Была не раз на ратным бездарожжы.
І процьма бед лунала над табой —
Ты заставалася заўжды непераможнай,
Маўклівай, працавітай і жывой.

Такой цябе згадаю я скрозь слёзы
Праз безліч год, з любой далечыні.
О, Беларусь! Палеткі ды бярозы,
Ды сінь вачэй, ды сонца ў вышыні.

## Зоркі лёсу

Калі зорка знікае з нябёс,
Што так доўга і ярка гарэла,—
Пэўна, недзе скалечаны лёс,
Або смерці крыло прашумела.

Пэўна, дзесьці на краі зямлі,
На акрайцы бязмежнага свету
Кветкі выбухаў зноў расцвілі
І ляцяць каршунамі ракеты.

З аксаміту начной чысціні
Ні адна з гэтых зорак-бурштынаў
Не пакіне сваёй вышыні,
Не пагасне яна без прычыны.

●

Даруйце, людзі, слабасці маёй —
Што з вашаю пакорай не спрачаўся,
Не бўіся з дагаджаннем і маной,
Што сам хлусіў, хістаўся і вагаўся.

Бездапаможнай сціпласці маёй,
Маёй нядужасці, нясмеласці — даруйце!
Даруйце, што не здолеў я сцяной
Стаць на шляху атрутнай каламуці.

Павінен быў ні ў чым не патураць,
Не патакаць ліслівасці і згодзе,
Павінен быў пярэчыць і крычаць,
Што хам ёсць хам, што злодзей —
гэта злодзей.

За свой бяскрылы, стрыманы парыў
Цяпер нясу належную расплату.
Недасканалы свет і я расціў.
Балюча мне, што ў гэтым вінаваты.

## Кастрычнік

Кастрычнік радасна малюе краявіды:
Палеткі бурныя і рыжыя сады,
І дымам вогнішчаў далёкіх перавіты
Грабеньчык на гары — сасоннік малады.

Абмаквае мастак, старанна і руплівa
Ён дрэвы цэлыя ў блакітныя стаўкі,
Выводзіць пэндзлямі адценні, пераліvы
І воблак залаціць бялюткі, трапяткі.

Паклоннік чыстых фарбаў, класік
прававерны,
З палітраю карпіць нястомна
з году ў год.
Не зменіць нізашто ён творчае манеры,
Не спыніць нізашто стваральны светлы
ўзлёт.

Такая цішыня на гэтым вернісажы!
І аж да той пары, пакуль яшчэ відно.
Спыняюць бег свой людзі і глядзяць
уважна
На бессмяротны твор, жывое палатно.

## Да закаханых

Належыць сёння свет вам, чарадзейны
свет,
Клянуся месяцам і небам неаднойчы!
Стракочуць конікі, і тае неўпрыкмет
Дыханне вашае ў павевах зорнай ночы.

Таемна ззяе над ракою Млечны Шлях;
У лазняку схаваўся ліпень дзіўным
гномам.
Лунае над зямлёй цягучы п'яны пах
Перастаялых траў і кветак невядомых.

Арган прыроды піянісіма гучыць.
Мелодыя пяшчоты ў цемры праплывае.
Дык кіньце кветку ёй, той ночы,
хай звініць!
Для вас адных яна так хораша спявае.

●

Да цябе іду я ў госці, бо гарыць
твой пацалунак
На шчацэ маёй збялелай, пацалунак
летніх дзён.
У партфелі — кніжкі, сшыткі і цукеркі
ў пачастунак,
Снег рыпіць, блішчыць, іскрыцца,
быццам радуецца ён.

У тваёй кватэры пуста, у тваёй кватэры
гулка.
Чырванею, быццам школьнік, штосьці
мямлю наўздагад;
Голас твой такі халодны, як мяцеліца
ў завулку,
Ем ды ем твае цукеркі і смяюся
неўпапад.

Ты глядзіш крадком на шафу,
на гадзіннік прыхаваны;
Падымаюся, хоць горка, адзінока
стала мне.
Сэрца б'ецца ашалела, сэрца б'ецца
несціхана,
Ды зусім яго нячутна ў развітальнай
гамане.

Зноў іду начной дарогай, а ліхтар сумуе
ў сцюжы,
І гарыць твой пацалунак — падарунак
летніх дзён.
Над зямлёю пабялелай вецер вее,
вецер кружыць,
Снег рыпіць, як шкла асколкі, ноч бярэ
мяне ў палон.

**ПРОЗА**

1

«НУ ШТО Ж,—пачухаў патыліцу ляснік Мялешка,—маглі б пажыць і ў мяне, але, не пакрыўдуйце, адвяду я вас да Максімаўны: ва ўсіх Дзедзічах ніхто вас лепей, чым яна, не дагледзіць...»

Ішлі мы надоўга, мінулі хат дзесяць, і вось ён, гэты двор, гэта агароджа: слупкі падгнілі, штакетнік вер-



**Мікола КУСЯНКОЎ**



# ЧАГА

АПАВЯДАННЕ

хам падаўся ўдоўж, у правы бок, — тонкія жэрдкі і аднолькава нахіленыя калкі нагадалі мне сшытак у касую лінейку. Увайшлі ў двор, і ўжо на ганку мне спатрэбіўся ці не цыркавы спрыт — так зазыбаўся дашчаны ганак пад нагамі, але я ўсё-такі ўстояў і ўслед за Мялешкам пераступіў парог.

Куды мы трапілі? У сенцы, дык не, бо вялікія ж, як у хаце, вокны, але ж і не ў хату, бо для хаты гэта занадта: мяшкі з бульбаю; кошыкі, кашолкі— з грушамі, слівамі, памідорамі; кашолка на мяшку і кошык на другой кашолцы,—усё гэта і на лаве, і пад лаваю, пад ёй нават запэцканыя ў зеленаватым гной гумавыя боты. І тут жа самаробны, на дзвюх крыжавінах стол, а на ім гладыш і збольшага прыкрыты палатняным ручніком пачаты бохан хлеба. Гаспадыня ж, старая жанчына, як быццам пакланілася нам — нізка нахілўшыся, мыла ў бляшаным тазе бульбу; але вось яна выпрасталася і звяла ўнізе кашчавыя, шэрыя ад бруднай вады, рукі.

«Прывет, Максімаўна,—пад столь узвіўся высокі Мялешкаў тэнар,—нізашто не ўгадаеш, каго я табе прывёў! Усе перабылі ў цябе, і сувязісты, і каморнікі, а гэта ўжо таксатар—чула пра такога? Не чула! Ну дык хай пажыве, а то адной табе ўжо сумна, хіба не так? Ён-то цэлы дзень у лесе, але ж вернецца, дык вечарам адвядзеш душу, пагамоніш. Ці ўгаварыў я цябе, Максімаўна?.. У-га-ва-рыў!.. Ну, тады глядзі, каб сышліся характарамі...»

## Прывычка

Як даць няпраўдзе рады?
Хацеў бы,
ды дармо:
адвыклае ад праўды,
пяро
і лжэ
само.

І, згоднае з пірожным,
ў нязгодзе—з сухаром,
грыміць вядром парожнім,
нібыта гэта гром...
1985

## Наконт старой прымаўкі

Кажуць, мае кароткія ногі мана.
Дык чаму яна побач заўсёды?
Ні на крок не адстала ад праўды яна...
Мабыць, боты ў яе—скараходы!

Ды, відаць, не адкрыю я вам навіну,
як скажу, што не хтось вінаваты,
як скажу, што мы самі прынеслі ману
на падэшвах у нашыя хаты.

Усю падлогу заплямілі брудам маны.
Не пачысцілі боты з дарогі,
а хутчэй пачалі пасцілаць дываны,
каб не бачыць нямытай падлогі.

Ці не гэтак хваліўся нямыты шляхцюк
беласнежнай сваёю манішкай?
Паказуха—традыцыя, пыха манюк,—
мы старою хварэем адрыжкай...

Ды хіба нам да твару падман і мана?
Дываны паказухі да твару?
Хіба шчырасці нас не вучыла вайна
з гістарычнаю праўдай на пару?

Дык чаго мы баімся?
Няўжо і цяпер
трыццаць сёмага мрояцца краты?
Як кароста, уеўся ў душу недавер:
«Ці не сталінскі цень каля хаты?»

А над хатай вясновая ззяе святлынь,
Перамога запальвае зорку,
і хоць рукі адвыклі даўно ад мятлы,
трэба брацца на весну за ўборку.

Што памёрла—дарэмна ірвецца з труны.
Абнаўляецца час, як прырода.
Усё-ткі праўда: кароткія ногі ў маны,
што і сцвердзіла мудрасць народа.
1985

## З афарызмаў Станіслава Ежы Леца

**(Вольны пераклад)**

1
«Ікс» скуру памяняў—явіў сваю натуру,
а так крычыць, нібыта здзёрлі скуру!

2
Гляджу на мяшчанства, і думаю зноў:
страшная лічба—сума нулёў!

3
Старых злачынстваў след і цень
у сённяшні прыводзяць дзень.

4
Навейшага часу з'явіўся герой,
ён нават сумленным здаецца:
горда носіць на шыі бірку з цаной,
за якую ён н е п р а д а е ц ц а!

5
— Пра што дэбаты, гарбуны?
— Ды ўсё наконт прамой спіны!

6
Як прыходзяць да пакоры?
Ёсць адна прычына тут:
хто надзець згадзіўся шоры,
той надзене і хамут.

7
— Ідэя ваша мёртвая,—сказаў і ўзяў за горла
ідэю тую бюракрат.—Уздыхнула—
і памёрла...

8
Дужа храбры: не баіцца
з рук дыктатара карміцца.

9
Куды прагрэс завёў зямлян?
Кірункаў процьма, левых, правых...
Усё менш на карце белых плям,
усё больш крывавых...

10
Без свабоды мыслі што свабода слова?
Кашалёк без грошай, без каня падкова.

---

Старая ўсміхнулася—не так сухімі ўчарнелымі вуснамі, як пабляклымі, пад колер яе сівізны, вачамі. У думках, мабыць, усміхнуўся і я, бо цікава была яна адзетая: гарадская, модная, як на маладой, кофта і — бабская, доўгая, ледзь не да пят, спадніца.

«Колькі ні жыла, з усімі ладзіла, дык і з ім не будзем сварыцца,— Максімаўна не надта пільна зірнула



на мяне, але я адчуў, што гэтага ёй было даволі, каб яна ўжо ўведала пра мяне штосьці істотнае, — пад такім позіркам міжволі ніякавееш.—А як жа цябе завуць? Мікалаем? Мікалай, бач. Харошае імя, майго чалавека, царства яму нябеснае, гэтаксама звалі. Дзесяць год, як няма ўжо. Хадзем, Мікалай, пакажу тваю святліцу...»

2

Назаўтра з Мялешкам мы толькі да абеду і пахадзілі па яго лесе—прагнаў дадому дождж. Нібы дзеля таго, каб я агледзеўся як след у сваёй «святліцы». У ёй ля лабавога прасценка стаяў засланы чыстай, пасвяточнаму квяцістай цыратаю стол; падсунутыя пад яго тры гнутыя крэслы, яшчэ, мабыць, даваенныя, абуджалі ў памяці штосьці чутае мною пра стыль рэтра; і быў такі ж даўні, ля глухой сцяны, інтэлігентны з выгляду, але ўжо дробна пабіты дзе-нідзе ржою, нікеляваны ложак. На ім я і прылёг адпачыць ці, можа, проста падумаць.

Думаў я пра Максімаўну, бо яна ж мяне толькі што частавала—за тым, крыжаногім сталом. Хаця—не частавала. Я ж помніў: недзе ў маёй роднай вёсцы гасцей не частуюць, а ш а н у ю ц ь, так і можна было, напрыклад, пачуць — «едзе зяць, а шанаваць няма чым», і з таго часу, на мой слых, «шанаваць»—гэта болей, чым толькі частаваць, бо, як мне здаецца, частаваць можна і без душы, а шанаваць без душы нельга. Максімаўна мяне шанавала. І што абедаў я—гэта само сабой; яшчэ трэба было бачыць, як цэлае войска гародніны і садавіны—агуркоў, груш, сліў на чале з вялікім чырвоным памідорам з падаконніка ўварвалася на тэрыторыю прысунутага к яму стала і тупым клінам развівала наступленне ў мой бок, а на гародзе ж і ў садзе ў гэтага войска заставаліся яшчэ незлічоныя рэзервы. Сама ж Максімаўна і расказвала мне, прысеўшы на мех з бульбаю. Сёлета яна не думала і не гадала, што ўсё так уродзіць. Бо смаліла ж з вясны! Да Пятра дажджынкі не ўпала, жыта згарэла, касцы ў балота, у Чортаву прорву палезлі—каб летась, дык са дна і кассём знаку не падаў бы. Ды паслаў-такі бог дажджу, і спорнага, акрыяла, пайшла ў рост бульба; агуркі не раслі не паўзлі, а то вунь націна і цяпер яшчэ падымаецца, як на драждждах, а ўжо ж, лічы, восень. І на грушах голле трашчыць, падпёртае, а слівы буйныя, што бульба. І цяпер усяго ў яе поўна, дык яна і розуму не дабярэ, куды гэта ўсё падзець. Хутчэй бы студэнтаў на бульбу прыгналі, тыя б далі рады, а пакуль не чуваць, дык хоць ты ўжо, Мікалай, не грэбуй — што ўбачыш, тое і еш...

3

Не магло такога быць, каб я заснуў. Звычайна таксатар па свежай памяці «замацоўвае», абводзіць тушшу тое, што на сваім áбрысе намаляваў у лесе алоўкам. Таму і я не збіраўся разлежвацца—устаў з ложка, сеў за стол, акуратна памачыў у туш чарцёжнае пёрка—усё рабіў наяву, я ў гэтым ніколькі не сумняваўся. Але тое раптоўнае, неспадзяванае, што адбылося далей, здалося мне ўжо не такім рэальным. Да двара ні з таго ні з сяго падляцеў нячутны, як ветрам прыгнаны, «газік». Я толькі зірнуў на яго ў акно, а ўжо адчыніліся дзверцы, і невысокі мужчына, без шапкі, з вялікім партфелем, сказаў штосьці шафёру і рашуча накіраваўся ў двор. Потым я пачуў, як на хаду, скупа, ён павітаўся з Максімаўнай, пастукаўся ў мае дзверы—для прыліку, бо адразу ж і штурхнуў іх. І не падумаўшы назваць сябе, напралом рушыў да майго стала, выхапіў з-пад абвіслай цыраты крэсла, сеў—нешта бесцырымонна-ўладарнае было ў паводзінах незнаёмага. Партфель ужо ў яго на каленях, рука штосьці шукае ў ім, шукае і не знаходзіць, на момант ён выхапіў з партфеля кнігу—у вочы мне кінулася назва—«Замежны дэтэктыў», рука ўжо нешта намацала на дне... тое, што трэба—запісную кніжку... Я ніяк не мог перахапіць яго позірк, каб сваім позіркам даць яму зразумець, што мяне дужа цікавіць, хто ён такі і чым я магу быць яму карысны. Але ён нічога не збіраўся тлумачыць, ён рыхтаваўся мяне дапытваць. «Значыць, малады чалавек,—здалося, ён ужо запісвае мой адказ,—вы, наколькі я разумею, маеце непасрэднае дачыненне да лесу?» Мне хацелася пратэставаць, але я быў нібыта загіпнатызаваны яго бесцырымоннасцю. «Як вам сказаць, я не ляснік, я таксатар, і мой лес больш абстрактны, ён у мяне на паперы». — «Гэтага можаце не тлумачыць, не паспелі вы тут аб'явіцца, як мой агент выйшаў на сувязь, і ўсё гэта я пра вас ведаю. Мяне цікавіць іншае...». Голас яго паплыў у маіх вушах, я ўжо не разбіраў яго слоў, толькі падумаў: «Адно з двух: або ён наяву паўтарае тое, што вычытаў у сваім замежным дэтэктыве, або я, прылёгшы на ложку, усё-такі заснуў і штосьці недарэчна-дэтэктыўнае мне сніцца...»

Я ўспомніў, як аднойчы ў Юравічах мяне, новага ў мястэчку чалавека, затрымаў тамашні ўчастковы і прывёў ці не ў той самы пакой, у якім задоўга да мяне пабываў мясцовы «рыштант» Васіль Дзяцел. Потым у гэты ж пакой міліцыянер паклікаў заплаканую кабету, і яна стала ўважліва да мяне прыглядацца—набліжалася і адступала назад, і я зразумеў, што яна апазнае ва мне злодзея, бо і ўчастковы надзвычай прафесійна, як бы між іншым, азіраў раз-пораз мой рукзак. Давялося перажыць непрыемныя хвіліны, але ўрэшце ўсё для мяне скончылася добра, бо міліцыянер, калі ты ні ў чым не вінаваты, заўсёды цябе адпусціць і нават папросіць прабачэння. Але то ж міліцыянер, а хто быў гэты чалавек, я не меў ніякага ўяўлення. Адно было ясна: ён мяне дапытвае, а раз так, дык у якую дэтэктыўную гісторыю я трапіў?..

Праўда, у дэтэктыве такі тып абавязкова бывае супермэнам; напрыклад, у кіно яго пазнаеш калі не па каменных скiвіцах, дык па яго ўнутранай звышчалавечай сутнасці, бо як бы ні прыкідваўся ён звычайным смяротным, нешта па-д'ябальску валявое не-не ды і выгляне з глыбіні вачэй—аж мароз па скуры. Тут жа было тое і ўсё ж не зусім. Безумоўна, у гэтым чалавеку пераважала воля, але было прыкметна, што ён і нерваваў, бо да суровай рашучасці ў выразе стомленага, шараватага твару прымешваліся заклапочанасць і трывога, а ў голасе, што мог здацца цвёрдым і пераканаўчым, чулася ў той жа час нешта крохкае, ломкае.

«Мой агент паведаміў мне, хто вы і што. Вы лесаўпарадчык, і гэта ваша справа—рабіце ў лесе што хочаце. Мяне ж цікавіць іншае. А іменна: вы маглі б, напрыклад, папрасіць ляснічага, каб ён выпісаў вам дроў ці якога матэрыялу?—Я пацiснуў плячамі.—Не адказваеце... Гэта ваша законнае права, але тады пакажыце пашпарт... Няма з сабою?.. Што ж, я паверу і так—прадыктуйце свой адрас.—Не зважаючы на маё недаўменне, ён запісаў неабходныя яму звесткі і, вяртаючы запісную кніжку ў партфель, надаў голасу яшчэ большай, але ўсё той жа крохкай, ломкай строгасці.—А цяпер слухайце мяне ўважліва. Каб ні дроў, ні жэрдак, ні слупоў—каб ніякага матэрыялу ў гэты двор не везлі—вы мяне зразумелі?.. Скора я буду браць вашага рэзідэнта, пачакаю толькі, пакуль управіцца—з бульбаю, з садам, а таму не ўздумайце мне перашкодзіць—вы ў мяне пад каўпаком.—Ужо выходзячы, спыніўся ля дзвярэй і кінуў цераз плячо:—Я вас папярэдзіў!..»

4

Цяпер я ўжо зусім быў збіты з панталыку. Калі ўсё-такі гэта не сон, а ява, дык чыё тут было трызненне—ягонае, маё?.. З жахам падумаў: зараз увойдзе Максімаўна, а я не ведаю, што са мною. Ды старая ціхенька ўвайшла ўжо. Напэўна, у мяне быў выгляд чалавека, які толькі што апрытомнеў і, баючыся, ці не зрабіў у непрытомнасці чаго благога, пазірае з трывогаю, без віны вінаваты. Але мне здалося, што і Максімаўна таксама збянтэжаная, таксама як вінаватая. Яна моўчкі апусцілася на крэсла, што заставалася высунутым з-пад стала: значыць, нехта на ім толькі што сядзеў, значыць, пабываў тут не прывід?..

Максімаўна, пэўна, прачытала ў маіх вачах нямое пытанне.

«Цяпер, Мікалай, ты і сам бачыш — гэта ж такі ў мяне родны сын. У раёне жыве. Ён там, а я тут, от між намі і вайна. Ой, вайна, Мікалай!..—Яна з сумнай усмешкай пахітала галавой.—А якая вайна, паслухай старую бабу—можа, ты нас і рассудзіш. Каб рассудзіў, дык я табе і дзякуй сказала б...»

«Паспрабую, можа, і рассуджу»,—няпэўна падумаў я, бо яшчэ не мінуў мой шок; праўда, штосьці да мяне ўжо дайшло: гэта, аказваецца, быў яе сын, але ж усё роўна заставалася загадка: чаму і пад якім я ў яго «каўпаком»?..

«Дзве дачкі ў мяне, — так старая пачала свой расказ,—у Мінску жывуць. Памагаю ім, дык у іх і кватэры дабрачыя, у большай, праўда, дзяржаўная, а ў меншай за свае грошы, капераціў, а пасля ж, як і на машыны ўзбіліся, дык я ім і кабанчыка, я ім і бульбы, і ўнукаў на ўсё лета вязуць, а бабе і радасць... Дык ён жа не рад, сын мой!.. Не, не буду бога гнявіць, няп'ючы, і вунь які начальнік—на машыне возяць, і з жонкай ладзіць. А яна ж і культурная, настаўніца, дык і са мной прыветная, і ўсё было б добра, ды не даў бог ім дзетак—можа, таму і ў нас і вайна. Бо ты ж сам падумай: абое капейку неблагую маюць, а раён жа адно званне што горад—у цешчы і соткі ёсць, і бульбіна, і памідорына, дык маё ўжо, бач, ім і лішняе. А дочкам жа яно не лішняе! Яны ж вунь у вялікім горадзе, а ў іх жа яшчэ і дзеці!.. Дык гадоў пяць назад прыехалі дочкі з зя-

(Працяг на стар. 10).

# Пісаць, адчуваючы жыццё

**Заслужанаму дзеячу мастацтваў БССР лаўрэату Дзяржаўнай прэміі рэспублікі Дзмітрыю СМОЛЬСКАМУ спаўняецца 50 гадоў**

**Сёлетні канцэртны сезон, зрэшты, як і папярэдні, выдаўся для кампазітара багатым на прэм'еры, аўтарскія вечары, творчыя сустрэчы са слухачамі. На «Мінскай вясне» 1987 года ўпершыню прагучала яго Чацвёртая сімфонія, годам раней адбылася прэм'ера Трэцяй. Другая сімфонія дастойна прадстаўляла сучасную музыку нашай рэспублікі на Днях Беларусі ў Славеніі. У праграму нядаўна прайшоўшага аўтарскага канцэрта ў Ерэване былі ўключаны Чацвёртая сімфонія і «Песня апошняга трубадура» для голасу і сімфанічнага аркестра на вершы іспанскага паэта XIII стагоддзя Г. Рык'ера — новы, яшчэ не вядомы мінчанам твор.**

**Мы сустрэліся з Д. Смольскім неўзабаве пасля яго вяртання з Ялты, дзе ў канцэртах Сімфанічнага аркестра Крымскай абласной філармоніі выконвалася яго Другая сімфонія.**

**Няцяжка пераканацца, што апошнім часам у фокусе творчых інтарэсаў кампазітара — сімфанічная і вакальна-інструментальная музыка.**

**— Дзмітрый Браніслававіч, чым вас прывабліваюць гэтыя жанры?**

— На сённяшнім творчым этапе гэтыя жанры найбольш адпавядаюць маім музычным задумам, даюць магчымасць выявіць адчуванне цэласнага драматургічнага развіцця. Сімфанічная і вакальная музыка заўсёды была і застаецца звязанай з увасабленнем значных філасофскіх, эстэтычных, сацыяльных тэм і ідэй.

**— А што зараз падаецца вам найбольш цікавым і важным у грамадскім і ў мастацкім жыцці?**

— Відавочна, менавіта ў час рэвалюцыйных сацыяльных зрухаў у людзей узнікае вострая патрэба ў кантактах. Усе мы сталі сведкамі той надзвычайнай увагі, якая надаецца сёння шматлікім дыскусіям, сустрэчам, тэлемастам, публікацыям друку. У нас у рэспубліцы тон у гэтых адносінах задаюць глыбокія, прынцыповыя, скіраваныя на сур'ёзныя праблемы выступленні дзеячаў літаратуры. І мы, музыканты, не можам заставацца ўбаку. Нам трэба больш актыўна ўмешвацца ў жыццё, адчуваць яго болевыя кропкі. Тым больш, што музыка цяпер успрымаецца як фактар грамадскі, робячыся прадметам вострай палемікі. Ды галоўнае, канечне, творчасць, дастойная часу, у які мы жывём. На жаль, сур'ёзная музыка сёння працягвае страчваць слухацкую аўдыторыю. Таму трэба паклапаціцца пра выхаванне слухачоў, асабліва маладых, пра далучэнне іх да музычнага мастацтва. Сімфоніі, кантаты, араторыі, оперы і балеты беларускіх кампазітараў павінны знаходзіць свайго слухача.

**— Ці не значыць гэта, што вы намерваецеся абмежаваць сябе буйнымі жанрамі?**

— Зразумела, не. Мне цікава працаваць над самымі рознымі творамі, за выключэннем, бадай, толькі песень. У 60-ыя гады я спалучаў песенную творчасць з работай у іншых жанрах. Пісаў песні з задавальненнем, вельмі лёгка. А потым перастаў адчуваць у гэтым патрэбу. На першы план выйшлі іншыя музычныя ідэі, вобразы.

**— Няцяжка заўважыць досыць акрэсленую перыядызацыю ў вашай творчасці: 60-ыя гады — эксперыменты ў галіне найноўшых кампазітарскіх тэхнік. Вынік іх — стварэнне «Гульні свету», Варыяцый на** basso ostinato **для флейты і фартэпіяна, камерная араторыя «Песні Хірасімы», «Актафонія», якія літаральна ашаламілі наша музычнае асяроддзе сваёй нязвыкласцю. 70-ыя гады — зварот да нацыянальных вытокаў, да жанраў, звязаных са словам; сцвярджэнне грамадзянскай і лірыка-драматычнай тэматыкі. Тады былі створаны адметныя вакальныя цыклы на вершы Г. Лоркі, Ф. Цютчава, Я. Палонскага, А. Ахматавай, М. Цвятаевай, А. Вазнясенскага, опера «Сівая легенда» паводле У. Караткевіча (а пазней і опера «Францыск Скарына»), араторыі «Мая Радзіма» (вершы беларускіх паэтаў) і «Паэт» (прысвечана Я. Купалу). І, нарэшце, 80-ыя гады — нейкім чынам перыяд сінтэзу, пазначаны найбольшымі дасягненнямі ў галіне лірыка-псіхалагічнага, канцэпцыйнага сімфанізму. Як жа цяпер, пасля двух дзесяцігоддзяў, вы ацэньваеце пошукі ў свае маладыя гады?**

— У 60-ыя я быў захоплены сучаснай музычнай мовай, сучаснай тэхналогіяй. Вывучаў літаратуру, шмат пісаў. І гэта зусім не было фармальным эксперыментатарствам. Тады я менавіта гэтак адчуваў, гэткімі вобразамі мысліў. І тэксты падбіраў адпаведныя — як, скажам, вершы сучасных японскіх паэтаў для «Песень Хірасімы».

Кожнаму ўзросту ўласцівы свае непаўторныя рысы. Нельга патрабаваць ад маладых мудрасці і глыбіні, затое ў маладосці куды вастрэй адчуваецца і лягчэй спасцігаецца навізна мовы і формы. (Для маладых, часам, не столькі важна «што» сказаць, колькі — «як» сказаць: паназірайце хоць бы за іх манерай гаварыць, апранацца). З гадамі я ўсё больш пераконваўся ў думцы, што самае каштоўнае ў мастацтве — прастата. Не прымітыў, вядома, а мудрая прастата. І я адчуў патрэбу гаварыць іншаю мовай — яснай, зразумелай, выразнай. Гэта зусім не значыць, што набытае ў 60-ыя гады было адкінута, забыта. Наадварот. Многія прынцыпы майго сённяшняга кампазітарскага мыслення (менавіта прынцыпы мыслення, а не тэхналогія толькі; самая сутнасць, а не вонкавая форма) пазычаны з арсеналу 60-ых. Напрыклад, з серыйнай тэхнікай звязаны прыёмы работы з тэматычным зернем, якія даюць магчымасць ствараць буйны монатэматычны опус. Такія прынцыпы ў аснове Другой, Трэцяй, Чацвёртай сімфоній.

**— Слухачоў, чытачоў, ды і крытыкаў заўсёды прывáблівае магчымасць зазірнуць у творчую лабараторыю мастака...**

— Найбольш прадуктыўна працую ў дамах творчасці — менавіта там удаецца цалкам засяродзіцца на стварэнні музыкі. Аднак кампазітарскай справе супрацьпаказаны вялікія перапынкі. Таму, каб падтрымліваць належную прафесійную форму, працаваць трэба пастаянна.

Як пішу? Гаварыць пра гэта няпроста: творчы працэс невытлумачальны. Але ж паспрабую...

Спачатку ўзнікае нейкі інтуітыўны пасыл, імпульс, затым ён канкрэтызуецца, афармляецца розумам. Далейшую працу шмат у чым вызначае жанр твора. Калі музыка з тэкстам — імкнуся ўзмацніць эмацыянальнае гучанне слова, знайсці адэкватную яму музычную мову. У інструментальным творы спачатку нараджаецца пэўная канструкцыйная ідэя. Ніколі не пішу «па кавалках», а заўжды — ад пачатку да канца. Бо для мяне надзвычай важная музычная драматургія. Лічу за лепшае «будаваць» яе на мінімуме матэрыялу: гэта дае магчымасць заглыбіцца ў яго, паказаць ва ўсіх іпастасях, зрабіць твор маналітным. Такі тып пісьма часта называюць мінімалізмам. Ён дазваляе ў сціслых часавых рамках сказаць вельмі многае, калі, вядома, думка сканцэнтравана дакладна, трапна; дазваляе выказаць мноства градацый чалавечых пачуццяў...

**— Ад кампазітараў-выкладчыкаў нярэдка даводзілася чуць, што педагогіка займае ў іхняй дзейнасці падпарадкаванае месца. Галоўнае, маўляў, кампазіцыя і ўсё, што ёй спадарожнічае: рэпетыцыі і канцэрты, творчыя сустрэчы і вандроўкі, запіс на радыё і тэлебачанні. Ці падзяляеце такі пункт гледжання вы?**

— Сапраўды, педагагічная дзейнасць адбірае шмат сіл і энергіі. Навучыць, скіраваць, падказаць, паправіць... Усё гэта напружаная ў інтэлектуальным і эмацыянальным сэнсе праца, якая робіцца шмат у чым за кошт кампазітарскай



творчасці. І ўсё ж весці клас кампазіцыі ў кансерваторыі не толькі цяжка, а і вельмі цікава. Працэс гэты строга індывідуальны, тут няма і не мож быць ніякіх догмаў, трафарэтаў, хаця, безумоўна, з часам кожны педагог выпрацоўвае ўласныя прыёмы навучання. І працэс гэты сугуба творчы, што і прыносіць мне вялікае задавальненне. І я шчаслівы, што займаюся тым, што магу рабіць, што люблю,— і кампазіцыяй, і педагогікай.

**— Пытанне да вас як да выкладчыка кансерваторыі. Многія з вучняў вашага класа ўжо дасягнулі пэўных поспехаў і прызнання. У вас ёсць магчымасць параўнаць выпускнікоў розных гадоў. Што можаце сказаць пра цяперашняе пакаленне кампазітарскай моладзі?**

— Праблем у моладзі заўжды многа. Адна з іх — недастатковы ўзровень музычнай культуры, эрудыцыі. Пакідае жадаць лепшага і прафесійная падрыхтоўка людзей, якія выходзяць на сцяжыну творчасці. З гэтымі праблемамі мы, педа-




**(Працяг. Пачатак на стар. 8—9).**

цямі, па дзяцей сваіх, акурат во такой парою, каб у школу забраць, ну а ведама ж, калі ты цешча, дык наканавана табе перад зяцямі запабягаць, частаваць іх, от яны ўжо і хітаюцца за сталом, бо ўжо вясёленькія. А тут і ён, сын мой,—яго ж возяць, дык не ўгадаеш, калі і падскоча. Яшчэ на парозе завадзіў нядобра галавою, бы цуглі закусіўшы, сеў, моўчкі перакуліў чарку, а тады і кажа: вы дакуль будзеце старую маці абіраць, дакуль вы будзеце яе сплаціраваць, гэта ў яго слова такое. Я, кажа, не дазволю, каб мая маці дзеля вас жыллё сваё напінала.

Ды пасварыўся адно і паехаў. Тады зяці і кажуць: мы не крыўдуем, гэта яму хмель у галаву ўдарыў, а так ён добры. А калі толькі хмель, дык яны яго і не баяцца, прыязджаюць налета зноў. Прыязджаюць, а тут вунь які хмель: як уляцеў ён у хату цвярозы, ды як схапіўся загрудкі—з адным, з другім, каб болей, кажа, і духу тут вашага не было! А дочкі яму: гэта і наша матка, не толькі твая! А ён ім ні слова ні паўслова, толькі з хаты каўзель, і ўжо машына ля двара загурчала—думаем, паехаў. Ды нешта чуе маё сэрца, зірнула я ў двор, а ён, сын мой, нібыта швайкаю доўгай як стаў пароць іхнія колы, а я не ведаю, крычаць мне ці маўчаць, абазвалася, а ён ужо колы тыя ўсе чыста папароў—як стаялі машыны, так і прыселі. Як усхапіўся старшы зяць, за сякеру ды за ім, а ў яго ж ото «козлік» напагатове гурчаў, дык зяць толькі наўздагон сякерою і шпурнуў—дзякуй богу, не папаў. Во як было, Мікалай!..»

Я слухаў Максімаўну, а сам прыкідваў: дыверсія, якую правёў яе сын, няйнакш, была загадзя ім спланавана, бо каб папраколваць шыны, трэба было падрыхтаваць «швайку» — можа, вастрэй затачыць доўгую адвёртку, трэба было, каб напагатове гурчаў «газік»,—словам, дзейнічаў ён у сваім дэтэктыўна-прыгодніцкім стылі, які мне быў ужо знаёмы па яго размове са мною. Але ж, думаў я, калі пра яго т а к о г а расказвае Максімаўна, дык, значыць, нічога мне не прымроілася, такі ён на самай справе? А тады што ж ён за чалавек? Ды і ўвогуле — што гэта за гісторыя?..

«...Ну, тады зяці і ўсхадзіліся: усё, матка, крыж на тваім дворышчы ставім; калі ў цябе такі дурны сын, дык крыўдуй не крыўдуй, а больш да цябе мы не прыедзем і дзяцей сваіх не прывязём, бо ад ненармальнага ўсяго чакаць можна... Заракліся ехаць, бо дужа ж доўга колы тыя знімалі ды клеілі. Таму яны і не едуць. Другое лета ўжо. Ото ў машыны дзяцей патопчуць дый вязуць іх на тое дурное мора, а там жывуць голыя, як дзікуны, а па малако за тры вярсты ходзяць.

Сын жа спачатку не мог нацешыцца: разагнаў тваіх дармаедаў, дык і табе няма чаго тут рабіць, збірайся, кажа, да мяне ў раён, не сягоння—заўтра прыеду і назаўсёды цябе адсюль забяру... От тады, Мікалай, і пачалася між намі вайна: ён ідзе ў наступ, а я, старая, адбіваюся...»

5

Максімаўна схамянулася:

«Ой, Мікалай, гэта ж мой гадаванец гвалт падымае. Пабягу замяшаю, а тады ўжо і мы вячэраць сядзем...»

Калі вандруеш з рукзаком па вёсках, часта выпадае жыць на кватэры ў старых. Некаторыя скардзяцца, што дзеці адцураліся іх, не бяруць у горад, але часцей яны і самі не хочуць туды ехаць. А хто перабраўся, вяртаецца назад. Адзін стары так нудзіўся ў гарадской кватэры, што сын з нявесткаю, ідучы на работу, зачынялі яго на ключ — каб не збег. Але ён звязаў тры прасціны, спусціўся з другога паверха і ўцёк да вясковай дачкі. Дык не дзіва, што і Максімаўна не хацела перабірацца да сына. Знаёмая гісторыя. Але ў ёй вельмі актыўна пачынаў дзейнічаць сын, і таму гісторыя ў нечым здалася мне і новай, яна мяне проста ўжо заінтрыгавала. Максімаўна ж за гаспадарчым клопатам ніяк не магла выбраць хвіліны, каб давесці свой расказ да канца. Мінуў дзень, другі, мы з Мялешкам апісвалі ўдоўж і ўпоперак яго лес, а я ўсё думаў пра Максімаўну і пра яе сына. І вось нарэшце я не стрываў і спытаў Мялешку, а ці не мог бы ён праясніць мне гэту гісторыю: жыве ж недалёка, дык і ўсё, напэўна, ведае...

«Што я магу сказаць, — задумаўся на хвіліну Мялешка, — на тое ж ён і родны сын, што хоча забраць матку. Даўно хацеў, а тут яшчэ баба Раманіха падагнала. Свойскай кашы ёй захацелася. Пасеяла проса, а прыйшла пара — зжала, пранікам абабіла дый ссыпала ў дзежку. А дзежка яшчэ ад цара, глыбокая, ці высокая, як тут сказаць, дык баба, проса чэрпаючы, няўдала неяк нагнулася, нібыта нырнула ў дзежку — старчма ўніз галавою, а перавярнуцца не можа, адно падрыкала нагамі дый перастала. Максімаўна, канечне, дужэйшая, але ж, як гэта бяда здарылася, сын ёй і кажа: баба Раманіха была такая ж харобрая, як ты, а, бач, якога коніка выкінула. Таму, кажа, прыеду, дваццаць чатыры гадзіны на зборы, і каб ніякіх размоў. А Максімаўна ні ў якую!.. Вось таму ў іх і вайна. А калі вы хочаце болей ведаць пра старую, дык я вам так скажу —чага!..»

Я зірнуў на Мялешку недаўменна.

«Чага, — паўтарыў ён. — Знаеце, бывае такая бярэзіна, стукнеш па ёй кляймом, а яна спрахла, нават на дровы не годная. Ды глянеш угору, а на ёй — чага!.. Згніло дрэва, але не хоча паміраць бескарысна, бо гэта ж не абы-што, а чага, людзі за ёй вунь як ганяюцца, яна ж, кажуць, ад самога раку памагае... Дык і ваша Максімаўна... Ад яе ўжо зямлёй пахне, а яна канавы паабкошвае, карове ношкамі нацягае, а тады яшчэ і малако здае калгасу. А як вы ў яе жывяцё, дык яна вас і накорміць, і напоіць, а ні рубля ж не возьме, толькі скажа — на здароўе... Чага!..»

Напэўна, Мялешка быў паэтам, а можа, і філосафам, але ж у дадзеным выпадку нічога новага мне ён не адкрыў: такіх, як Максімаўна, старых людзей я ведаў намнога лепей за яго, бо шмат разоў на сабе зведаў іх дабрату і сардэчнасць. Праўда, бывала і так. Жыву ў адных старых, а самае ж лета — кубелец іхні, мабыць, апусцеў, і вось раніцай чую праз сон, як у сенцах добрая старая агітуе старога ахвяраваць дзеля кватаранца курыцаю. Стары ж упарціцца, бо я чую, старая прытупнула нагой: не саромся перад чалавекам, адсячы палавенькай галаву, усё роўна ў бур'янах нясецца! І палавенькая трапіла-такі ў суп. Але ж як адыграўся стары! Схіляюся ў хаце над сталом, абводжу тушшу свой лесавы áбрыс і раптам чую, як мой гаспадар турнуў з агарода курэй: «Акыш, каб вас так сатар паеў!..»

Але, канечне ж, такі стары — прыкрае выключэнне з правіла, якое Мялешка надзвычай ёмка і вобразна па-

гогі, сутыкаемся ўжо на прыёмных экзаменах у кансерваторыю. Але дзеля справядлівасці трэба зазначыць, што некаторыя нашы выхаванцы за гады вучобы прыкметна развіваюцца, робяцца яркімі асобамі са сваёй уласнай творчай пазіцыяй—ім ёсць што сказаць слухачам.

Але, вядома, трэба нам усё ж больш слухаць, зацікаўлена і зычліва абмяркоўваць творы маладых. І паміж імі павінна быць здаровая канкурэнцыя, якая падтрымлівае жаданне эксперыментаваць, шукаць. Ды, на жаль, атмасфера ў нашым Саюзе кампазітараў развіццю такіх тэндэнцый пакуль не спрыяе.

**— Вакол нас — літаральна паводка рок-музыкі. У канцэртных залах, па радыё і тэлебачанні, з бытавых магнітафонаў і прайгравальнікаў гучыць яна. Ужо знаходзяцца і «тэарэтыкі», якія гатовы абвясціць яе ледзьве не вянцом усяго гістарычнага развіцця музычнага мастацтва...**

— Я прымаю розную музыку, у тым ліку і таленавіты рок. Забараняць, змагацца з гэтым — бязглуздзіца. Відаць, рок узнік заканамерна, і на пэўным этапе жыцця моладзі ён адпавядае яе запатрабаванням. Праблема ў іншым. Чалавек высокай духоўнай культуры, эстэтычна чулы, спагадлівы ўспрымае жыццё і мастацтва ва ўсёй шматстайнасці. У душы такога чалавека знойдуць водгук Бетховен і Брамс, джаз, рок, народная песня. Іншая справа — чалавек духоўна неразвіты, бедны. Для яго і сапраўды ўвесь свет музыкі — «з аўчынку», ды і тое — не самыя лепшыя ўзоры масавай культуры. Таму галоўная задача, на маю думку, у тым, каб, пачынаючы са школьных гадоў, абудзіць у маладых патрэбу ў духоўнасці, харастве, у сапраўдным высокім мастацтве. Тады і рок зойме адпаведнае яго сутнасці месца. І захапленне ім не будзе пераходзіць у гіпертрафіраваныя формы.

**— Дзмітрый Браніслававіч, на заканчэнне — традыцыйнае пытанне: вашы бліжэйшыя творчыя планы?**

— Працую над сімфоніяй для камернага аркестра.

**— Дзякую за гутарку.**

Інтэрв'ю вяла
**Вольга САВІЦКАЯ.**
Фота А. КАЛЯДЫ.

НА АБСЯГАХ КУЛЬТУРЫ

# «Кніга на службе міру і прагрэсу»

**ПАД ТАКІМ** дэвізам вось ужо шосты раз адкрыецца ў верасні гэтага года Маскоўская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш. Разам з кнігавыдаўцамі краіны рыхтуюцца да яе і выдавецтвы Беларусі.

Кнігавыдавецкая справа ў рэспубліцы адлюстроўвае той росквіт, які перажывае наша беларуская нацыянальная культура, і з'яўляецца неад'емнай часткай духоўнай скарбніцы ўсіх савецкіх людзей. Гэта мы бачым і адчуваем, прымаючы ўдзел у маскоўскіх кніжных кірмашах, міжнародных выстаўках, а таксама ва ўзрастаючым экспарце кніг з Беларусі ў замежныя краіны. Трэба адзначыць, што беларуская кніга здабыла высокі міжнародны аўтарытэт. Толькі ў 1986 годзе беларускія выдавецтвы адправілі ў замежныя краіны звыш 600 назваў кніг на суму каля 3,5 мільёна рублёў. Гэта творы класікаў беларускай літаратуры, лепшыя кнігі прозы і паэзіі сучасных пісьменнікаў Беларусі, шматлікія работы па навукова-тэхнічнаму прагрэсу, выданні грамадска-палітычнай тэматыкі, вучэбная і даведачная літаратура, слоўнікі. Экспартуем мы і гатовыя тыражы кніг, *выдадзеныя на беларускай мове*. Так, у 1986 годзе былі адпраўлены ў ФРГ, Канаду і Францыю зборы твораў З. Бядулі і М. Гарэцкага; кнігагандлёвыя фірмы з ЗША, Англіі, ФРГ, Галандыі, Францыі купілі энцыклапедычны слоўнік «Янка Купала», зборнік «Беларуская байка», кнігу С. Палуяна «Пісьмы для будучыні», зборнік *«Дзень паэзіі-86», слоўнікі* і даведачную літаратуру на беларускай мове.

Беларуская кніга сёння экспартуецца ў 109 краін свету, сярод іх, акрамя вышэй адзначаных, Індыя, Іспанія, Егіпет, Японія, Мексіка, Венесуэла, Аўстралія, ПНР, ЧССР, Балгарыя, Югаславія, Венгрыя, ГДР, В'етнам. З кожным маскоўскім кірмашом нязменна ўзрастае продаж замежным выдавецка-гандлёвым фірмам беларускіх выданняў. Калі на першым кірмашы ў 1977 годзе мы іх прадалі ўсяго на 320 тысяч рублёў, то летась — амаль на паўтара мільёна рублёў. Беларуская кніга ідзе на ўсе кантыненты. І мы прымаем неабходныя захады да таго, каб нашы сувязі з замежнымі партнёрамі з году ў год пашыраліся, а кнігаабмен адпаведна павялічваўся.

Маскоўскі кірмаш якраз і з'яўляецца адной з форм пашырэння такіх кантактаў. Сёлетні кірмаш збярэ больш за 3 тысячы замежных кнігагандлёвых і кнігавыдавецкіх фірм. З боку нашай краіны ў выстаўцы-кірмашы прымуць удзел усе цэнтральныя выдавецтвы, выдавецтвы саюзных рэспублік і некаторыя грамадскія арганізацыі. Кожная саюзная рэспубліка мае сваю асабістую экспазіцыю.

На кірмашы, што мае адбыцца, нашу беларускую экспазіцыю складзе літаратура рознабаковага тэматычнага і мэтавага дыяпазону. Важнае месца, як звычайна, аддаецца кнігам грамадска-палітычнай тэматыкі, у тым ліку выданням аб жыцці, рэвалюцыйнай і дзяржаўнай дзейнасці У. І. Леніна, аб Камуністычнай партыі — яе гісторыі, кіруючай ролі ў нашым грамадстве, а таксама літаратуры, выдадзенай да 70-годдзя Вялікага Кастрычніка.

Будуць шырока прадстаўлены выданні, прысвечаныя падзеям Вялікай Айчыннай вайны, а таксама літаратура, якая шырока *адлюстроўвае* актуальныя народнагаспадарчыя праблемы, дасягненні навукі і культуры, тэхнікі і вытворчага вопыту.

Самымі вялікімі, як заўсёды, будуць стэнды мастацкай і дзіцячай літаратуры. Сярод прадстаўленых кніг — раман Васіля Быкава «Кар'ер», апавяданні Янкі Брыля «Ад сяўбы да *жніва»*, *«Лірыка»* Максіма Танка, вершы і паэмы «Далучанасць» Пімена Панчанкі, раманы Івана Шамякіна «Атланты і карыятыды» і «Зеніт», зборнік крытычных і публіцыстычных работ «Выберы — жыццё» і аповесці «Карнікі» і «Хатынская аповесць» Алеся Адамовіча, п'есы Алеся Дударава, творы І. Пташнікава, Р. Барадуліна, Б. Сачанкі, А. Вярцінскага, А. Грачанікава, А. Жука, П. Міська, С. Алексіевіч і іншых беларускіх пісьменнікаў.

Асобна будуць экспанавацца кнігі І. Мележа, В. Быкава, І. Шамякіна, М. Танка, А. Адамовіча, Я. Брыля, І. Чыгрынава і многіх іншых, што былі перакладзены на замежныя мовы і выдадзены ў розных краінах свету.

Вялікае месца ў экспазіцыі зоймуць выданні на замежных мовах па заказах замежных фірм — гэта лепшыя творы нацыянальнай класікі, кнігі сучасных беларускіх пісьменнікаў, беларускія народныя казкі і фальклор у перакладзе на англійскую, нямецкую, французскую, іспанскую, галандскую, арабскую, польскую, чэшскую, славацкую, сербскахарвацкую і іншыя мовы.

Галоўным экспарцёрам кніг на замежных мовах з'яўляецца ў рэспубліцы выдавецтва «Юнацтва», якое за гады 11 пяцігодкі выпусціла па заказах замежных фірм 82 назвы кніг агульным тыражом амаль 4 мільёны экземпляраў. Асноўныя імпарцёры беларускай літаратуры — сацыялістычныя краіны. Але, дзякуючы намаганням выдавецтва, у апошнія гады атрыманы і выкананы заказы фірм з Аўстрыі, ФРГ, Бельгіі, Нідэрландаў, Мексікі, Індыі, Нікарагуа, ЗША, Аўстраліі, Фінляндыі, Егіпта, Бангладэш. Частка тыражоў рэалізоўвалася ў Афганістане, Нарвегіі, Іране, Сінгапуры, Непале, Сірыі, Іарданіі, Малайзіі і іншых краінах, што, вядома, спрыяе больш шырокай папулярызацыі беларускай *кнігі. Сярод новых* заказчыкаў на сённяшні дзень— фірмы з Марока, Народна-Дэмакратычнай Рэспублікі Паўднёвы Йемен, Гвінеі і іншых.

На апошнім кірмашы, што адбыўся ў Маскве ў 1985 годзе, з замежнымі фірмамі было заключана больш за 350 здзелак. Падпісана 124 кантракты, з якіх 80 на ўступку правоў замежным фірмам на перавыданне твораў беларускіх аўтараў у перакладзе на замежныя мовы, а пасля кірмашу было падпісана яшчэ 56 кантрактаў. Такім чынам, за два гады больш за 100 лепшых кніг беларускіх пісьменнікаў убачылі свет у краінах сацыялізму, а таксама ў ЗША, ФРГ, Японіі, Фінляндыі, Алжыры і іншых. З 44 кантрактаў, на якія ў замежных фірм мы набылі права на выданне, 43 ужо рэалізаваны. Сярод твораў, *што выйшлі па кантрактах* у рэспубліканскіх выдавецтвах, — проза і паэзія, навуковыя работы, вучэбная і даведачная літаратура аўтараў з СФРЮ, Кубы, ГДР, ПНР, ЧССР, ВНР, а таксама з ФРГ, Аўстрыі.

Па папярэдніх падліках вынікі на Маскоўскай міжнароднай выстаўцы-кірмашы чакаюцца больш значныя — як у плане *продажу гатовых тыражоў*, так і ўступкі правоў на перавыданне беларускіх твораў за мяжой.

Беларускія кнігавыдаўцы заклапочаны зараз тым, каб яшчэ раз перагледзець падрыхтаваныя для экспазіцыі кнігі, забяспечыць своечасовы выхад рэкламных матэрыялаў, узгадніць час наведвання камерцыйнага цэнтра і замежных экспазіцый, узважыць свае магчымасці.

Зразумець адзін аднаго, аб'яднацца для высакароднай справы — захавання міру ва ўсім свеце, — такую мэту ставіць перад сабой міжнародны кніжны форум у Маскве, дэвіз якога «Кніга на службе міру і прагрэсу» падзяляюць многія выдаўцы планеты. Гэтай мэце служаць і беларускія кнігавыдаўцы, пашыраючы кнігаабмен, а тым самым і міжнароднае супрацоўніцтва.

**В. ВАЛЫНСКІ,**
вядучы рэдактар
Дзяржкамвыда БССР,
кіраўнік рабочай групы
знешнеэканамічных і
культурных сувязей
*з замежнымі краінамі.*

# З ГЛЫБІНІ СТАГОДДЗЯЎ

Памяць пакаленняў непадуладна часу. Скрозь гады і падзеі яна ўваскрашае выдатныя старонкі нашай гісторыі. Гэта цікавая фотакніга так і называецца —«Часу непадуладна». Прысвечана яна юбілею унікальнага помніка сусветнай пісьменнасці — «Слова пра паход Ігаравы». З глыбіні васьмі стагоддзяў звернуты да чытача хвалюючыя радкі паэмы на сучаснай рускай, украінскай і беларускай мовах, пераўвасоб*ленай выдатнымі майстрамі* мастацкага перакладу Мікалаем Рыленкавым, Максімам Рыльскім і Янкам Купалам.

Невядомы аўтар эпасу, буйнейшы паэт і мысліцель, палымяны патрыёт сваёй радзімы вяртае нас на старажытную чарнігава-северскую зямлю, адкуль пачаў свой паход на палаўцаў князь Ігар Святаславіч. Яго хвалюючы расказ дапаўняюць шэдэўры айчыннага дойлідства — равеснікі «Слова...» Сёння больш за трыццаць выдатных помнікаў даўніны *аб'яднаны ўрадавай пастановай* у Чарнігаўскі архітэктурна-гістарычны запаведнік.

Каляровыя фотаілюстрацыі складальніка кнігі В. Школьнага шырока знаёмяць чытача з велічным Спаскім саборам — адзіным захаваным на левабярэжжы Украіны помнікам манументальнага каменнага дойлідства росквіту Кіеўскай Русі.

Фотакніга пазнаёміць дасціпнага чытача з радзімай галоўнага героя «Слова...» жамчужынай «старажытнарускіх караляў» тысячагадовым Ноўгарадам-Северскім, яго велічным ансамблем Спаса-Прэабражэнскага манастыра, знакамітымі *гандлёвымі радамі*, трыумфальнай аркай, унікальным помнікам народнай драўлянай архітэктуры паўночнага левабярэжжа Украіны — Нікольскай царквой...

Захапляючы фотарасказ суправаджаецца ўступным артыкулам і навуковымі каментарыямі, напісанымі на мовах трох братніх народаў, калыскай якіх была Кіеўская Русь.

Фотаальбом убачыў свет ва ўкраінскім рэспубліканскім выдавецтве «Мистецтво». Гэта добрае запрашэнне да падарожжа ў дзіўны свет цудоўнага не толькі для турыстаў, а і ўсіх чытачоў, якія захапляюцца гісторыяй роднай краіны.

**І. КУЖЭЛЬНЫ.**
г. Чарнігаў.

даў мне ў адным слове — чага!.. Дзіва што чага... Але ж, думаў я, калі чага, дык чаму абавязкова старое дрэва? А чаму не сярэдняга веку, чаму не маладое?.. Так я пытаў сябе, і, мабыць, таму, што мае думкі займала ўжо не столькі Максімаўна, колькі яе сын, чалавек яшчэ, канечне ж, не стары, было яму гадоў сорак пяць, не болей...

6

Вечарам Максімаўна падсела нарэшце да майго стала.

«Гэта ж я пазаўчора не даказала табе. Пра сына. Затуркалася, не адно дык другое. Паслухай жа далей. Прыязджае мой сын дый кажа: адпрэчыў я тваіх зяцёў, дык хто ж табе цяпер дроў прывязе ды напілуе? Ага! Не будзе чаго ў печ укінуць, дык перастанеш упарціцца, сама сядзеш і паедзеш да мяне ў раён... А я толькі галавой ківаю: не ведаеш ты маіх зяцёў. Яны ж, бывала, усё пад машынай, адны ногі тырчаць, ці галавою ў маторы, а каб дроў насячы ці шула цешчы падперці, дык ім і клопат малы. А я іх і не прыганяю. Прывядзе брыгадзір на кватэру хлопцаў, тых, што лектрыку мяняюць, дык я да свету падхаплюся — і снеданне згатую, і полудзень кожнаму ў кашэль пакладу, не дзіва, што і яны мне аддзячаць. Як слабейшы слуп паваляць, дык і валакуць трактарам, а ля двара пілою, тою, што тарахціць дужа, парэжуць, а пасля пасякуць ды яшчэ і складуць за хатаю. А тады бачу, а яны і кароткі ўжо слуп, ды зусім новы, ля шула ўкапалі, тоўстым дротам усё разам абкруцілі, дык цяпер у мяне і хлеў не горшы, чым у людзей, а то ж, было, вароты ўжо ні адчыніць, ні зачыніць. Ды нехта ж увёў сыну ў вушы пра лектрыкаў — ох і злосны ж прыляцеў: пачакай жа, кажа, адпрэчыў адных, пужну і другіх, а то не разабраць, чыя ты матка — мая ці ўсяго свету. Кладу, кажа, гэтаму канец — каб ніякі прыблуда нічога табе ў двары не рабіў і дроў каб не вёз і не сек, а каторы не паслухаецца майго загаду, той перада мной адкажа. Цяпер ты, Мікалай, можа, і сам кеміш, чаму ён быў з табой такі суровы. Ён жа думае, як ты па лесе ходзіш, дык ці дроў расстараешся, ці якую жэрдку на плот прыцягнеш, — ото ж ён цябе і пужнуў, я ж чула, як ён табе гразіўся, ажно адрас твой запісаў...

От так, Мікалай, ён выкурвае мяне адсюль, але ж хай бы толькі выкурваў, а то ж яшчэ і страшыць: я, кажа, рыхтую аперацыю і скора буду цябе браць. А якую ён рыхтуе мне аперацыю, я і розуму не дабяру, ён жа не доктар, а начальнік над зямлёй, нездарма ж яго і на машыне па ўсім раёне возяць».

Я не ведаў, каму спачуваць —Максімаўне ці яе сыну: чалавек да таго ўжо начытаўся дэтэктываў, што збіраўся «браць» родную матку. Жудкавата ўспомнілася, што і я ў яго «пад каўпаком». І, напэўна, я толькі пашкадаваў бы яго, калі б раптам не адчуў, што мала яго пашкадаваць, у ім трэба яшчэ нешта як след зразумець. Мне выразна згадаўся твар «начальніка над зямлёй», твар, на якім увачавідкі змешвалася напускная знешняя ўпэўненасць і прыкры ўнутраны неспакой, і я пачынаў ужо здагадвацца, што менавіта растрывожаны дух начальніка шукае выйсця ў яго дэтэктыўным дзівацтве. Безаглядная хватка, якую заўважаў я ў паводзінах многіх начальнікаў, тут пераходзіла ў яўны фарс і тым самым нібыта адмаўляла сама сябе — я пачынаў гэта разумець і яшчэ ўважлівей слухаў далей Максімаўну.

«А як пахавалі Раманіху, сын і кажа: усё, рыхтуйся да аперацыі, буду цябе браць, бо на мяне ўжо напісалі нанімку: сам раскашуецца ў раёне, а старой маці чужыя людзі дровы сякуць. Дочкі твае, кажа, толькі цябе ў свае модныя кохты, як маладую, адзяюць, а ў горадзе ты ім не трэба, ім лепей, каб ты дзеля іх тут сябе ўсю паклала, а я, кажа, люблю цябе і шкадую, таму і павінна ты жыць у мяне, у свайго сына...

Чуеш, Мікалай?.. Так ён пачаў гэтую гаворку пра сваё шкадаванне ды пра любоў. А як пачаў, дык я яму і кажу: такая ж твая любоў да роднай маткі, такое ж тваё шкадаванне! Зірні, кажу, на мяне: калі я люблю і сясцёр тваіх, і цябе, дык на тое ж я і кабанчыка гадую: прыедуць сёстры твае пад Новы год, употай ад цябе, каб зноў колы не папсаваў, дык я аднной сцягенца, другой лапатку дый табе ж, бывае, у партхвель сала брус увапхну — бачыш, якая мая любоў! А твая любоў толькі на словах, ты толькі па радзіву прыгожа гаворыш...

Сказала так, дык ён ажно збялеў. А як, Мікалай, было з тым радзівам. Неяк суседка мая гукае цераз плот: бяжы, старая, у хату, па радзіву твой сын гаворыць. Я ў святліцу, а тут і праўда ж талерка мая чорная брыншчыць і голас як чужы, ды дзе ж маці не пазнае свайго сына — ён!.. Чую, а сын пра нейкае зелле кажа, я нават яго не выгавару, век яго ў нас не сеялі, а то, кажа, пасеем на тархвянні, дык і малако пацурчыць, і пчолы ношкамі цягаць мёд будуць. А я слухаю ды сама сабе думаю: хай бы яно так і было, тады і мне вальней будзе ўкасіць сваёй карове за гародам, бо калі ў калгасе травы досыць, дык і брыгадзір добры — абкошвай, старая, канавы... Ды не так выйшла, як мой сын казаў. Ой, не так!.. Як навалілася суш, як усчаўся вецер, дык тое зелле разам з торхам падхапіла і панесла, можа, за свет. А за гародам у мяне і тая трава, што сама расце, парудзела ўся чыста, бо, ведама ж, канавы, а па канавах вада збегла, і зямля сухенькая абапал — во як!.. Дык цяпер я сыну і кажу: цягнеш мяне ў раён, ды, можа, таму і цягнеш, што сам бачыш: мне ўжо за гародам карове сваёй не тое што ўкасіць, а і ўжаць якога чубка сярпом няма дзе. От такая, кажу, твая любоў, такое тваё шкадаванне...

Дык ён пык-мык дый прыкусіў язык. Бо яму і казаць няма чаго. Толькі дужа пахмурны стаў, падхапіўся — і з хаты».

7

Гэтым ранкам і я быў «пахмурны» — развітваўся з Максімаўнай. Ускінуў на плечы рукзак, выйшаў з двара і сярэдзінай вуліцы, па вузкім, з рыхлаватымі краямі асфальце, падаўся на аўтобусны прыпынак. Насустрач мне ішлі два хлопцы, іх паблажліваляныя позіркі слізгалі высока над зямлёй — паверсе дрэў і хат. Але адзін з іх заўважыў тое, што на роўным асфальце з асабліва маляўнічай нагляднасцю пакідаюць пасля сябе каровы; пачулася, ён спытаў: «Як ты мяркуеш, стары, можна ўявіць сабе такое дзе-небудзь на Брадвеі?», на што другі адказаў пераканана: «Твая праўда, стары, на Брадвеі такое ўявіць немагчыма...»

«Блажен, кто вовремя созрел», — падумаў я, шкадуючы гэтых невяскоскаовых, мабыць, чыстаплюяў. А можа, я пашкадаваў не толькі іх?.. Гэтым брадвейным хлопцам я мог бы прывесці ў прыклад сябе: выспеў некалі нават раней часу, а цяпер, калі я да таго ж і пажыў на свеце, я, канечне ж, быў шмат мудрэйшы за іх; але ж усё роўна... вярнуўся ў думках да Максімаўны, азірнуўся назад — і яе пахілены ўдоўж, у правы бок, рэдкі штакетнік зноў нагадаў мне даўні, у касую лінейку, сшытак. Я міжволі па-

(Заканчэнне на стар. 12).

